



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

31 сакавіка 2017 года №13 (1144)


# У Маладзечне працуе камісія па працаўладкаванні

Камісія працуе ад 20 сакавіка. У дзень прымае да 30 чалавек. Кожнаму з тых, хто звярнуўся, імкнуцца знайсці працу. Падрабязнасці:

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.



Ад **3 КРАСАВІКА** "Рэгіянальная газета" будзе працаваць па новым адрасе:

Маладзечна, Вялікі Гасцінец, д. 143, пакой 518 (5 паверх) у ГЦ "Тройка". Запрашаем у новы офіс!

Кантактныя нумары: (8029) 573-28-47, (8029) 676-84-20





## Якому спецыялісту ў Маладзечне прапануюць заробак у 1200 рублёў у месяц?

старонка 2

## Чаму 11-гадовы хакеіст не прапускае трэніроўкі? Адказ тут:

старонка 22

ТЭМА НУМАРА

# “Не хочаце кіроўцам – садзіце ялінкі!”

## Як у Маладзечне працуе камісія па працаўладкаванні

МАЛАДЗЕЧНА

**Камісію па загадзе старшыні Маладзечанскага райвыканкама Аляксандра Яхнаўца стварылі 20 сакавіка.**

Кожны працоўны дзень, ад 14:30 да 17:00, сюды ідуць людзі, у якіх адна надзея знайсці працу – папрасіць дапамогі ў выканкаме.

28 сакавіка карэспандэнт “Рэгіянальнай газеты” прыйшла на камісію па працаўладкаванні.

Ад дзвюх гадзін дня калідоры запаўняюцца людзьмі.

– Гэта яшчэ не многа, – расказваюць супрацоўнікі выканкама, – у першы дзень работы камісіі нельга нават было праз фае прайсці, столькі было людзей.

Прыём 28 сакавіка вялі намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч**, начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне **Вольга Майстрэнка**, дэпутат Палаты Прадстаўнікоў **Людміла Кананові**ч, а таксама іншыя прадстаўнікі выканкама, упраўлення па працы, юрысты.

Людзі прыходзяць розныя: маладыя і не вельмі, з вышэйшай адукацыяй і без адукацыі ўвогуле, мужчыны і жанчыны. Прыходзяць разам з суседзямі, сябрамі і сем’ямі.

Генадзь Актанаровіч пасля прыёму сказаў:

– У сярэднім мы прымаем у дзень каля 30 чалавек. Кожнаму стараемся знайсці працу тут жа, не выходзячы з кабінета. Канешне, больш за ўсё работу шукаюць мужчыны, у якіх або ўвогуле няма адукацыі, або маюць працоўную спецыяльнасць. Ды вы і самі ўсё бачылі.

Адным з першых на прыём прыйшоў мужчына, які не мае ніякай адукацыі, раней працаваў прыбіральшчыкам.

Акрамя расповеду пра тое, дзе працавалі і чаму звольніліся, людзі дзеляцца сваімі сямейнымі абставінамі і праблемамі.

– Я нідзе не працую, але маю тры крэдыты, – расказвае мужчына, – жонка зняла з карткі грошы і кінула мяне.

– Прабачце, а з чаго вы крэдыты пагашаеце? – пытаюцца ў камісіі.

– Я мужчына шустры, – прызнаецца наведнік, – знайшоў сужытніцу.

Мужчыну адразу прапанавалі пайсці працаваць пастухом у Маркава.

– Туды ж трэба ездзіць?

– Ну, так.

– А я за каровамі бегаць не змагу, я хворы.

– Там не трэба бегаць, там электрапастухі.

– Ну, не.

– Тады едзьце садзіць ялінкі ў лягас.

Мужчына дзякуе і сыходзіць.

У кабінет заходзіць наступны наведнік.

Яго завуць Віталь, ён па спецыяльнасці сталяр. Расказвае пра сябе:

– Доўгі час ездзіў на заробкі ў Расію. Грошай не зарабіў, затое здароўе падарваў. Разумею, што выбар у мяне невялікі, таму, куды прапануеце, туды і пайду працаваць.

Яму прапаноўваюць пайсці працаваць у водаканал.

– А як там зарплата?

– Ну, як мы можам вам даць дакладны адказ? Гэта непасрэдна залежыць ад працадаўцы. Пойдзеце?

– Пайду.

Прыйшла жанчына. Яна выхоўвае адна дачку. Працавала ў школе, у кавярні. Расказвае пра сваю жыццёвую гісторыю.



Камісія ўважліва выслухоўвала наведнікаў і адразу прапаноўвала варыянты работы.

Фота Наталлі ТУР.

**Камісія прапаноўвае розныя варыянты работы, тут жа, пры наведніцы, датэлефаноўваецца ў розныя ўстановы, пытаецца, ці патрэбныя работнікі.**

Гэтак жа было і з наведнікамі Яўгенам і Дзмітрыем. Адзін папрасіў у камісіі знайсці яму работу прамысловага альпініста, другі хоча працаваць у пахавальным бюро. Камісія тэлефануе патэнцыйным працадаўцам, высвятляе наяўнасць вакансій, адпраўляе туды мужчын, якія звярнуліся сюды па дапамогу.

Падчас работы камісіі сюды прыходзілі і людзі, якія не шукаюць працу, але цікавяцца, якія дакументы трэба прынесці, каб не плаціць падатак на дармаедства.

Былі тут і працадаўцы. Мужчына, дырэктар фірмы, прыйшоў, каб сказаць, што ў яго фірме ёсць вакансіі. Занатавалі, падзякавалі.

Аднак знаходзіліся людзі, якія не пагаджаліся ні на адзін варыянт працы, якую ім прапаноўвалі.

– Я хачу харошую работу з харошым заробкам! – заявіў адзін з наведнікаў, кіроўца па спецыяльнасці.

І ні адзін варыянт, які прапанавала камісія, мужчыну не падышоў.

**– Тады едзьце садзіць ялінкі! Праца, канешне, часовая, але заробак будзе.**

– Добра.

– За тыдзень, што працуе камісія, – расказвае Генадзь Актанаровіч, – яшчэ ні адзін чалавек не вярнуўся з тых, каму прапанавалі работу. Людзі ўладкоўваюцца.

Калі гаварыць пра статыстыку беспрацоўных у раёне і колькасці вакансій, то гэта лічба мяняецца кожны дзень.

– І ўжо назаўтра інфармацыя можа быць неактуальнай. Мяркую, лепш будзе спытацца пра статыстыку пазней, на першы і апошні дзень работы камісіі.

Камісія будзе працаваць, пакуль у гэтым ёсць патрэба. Для таго, каб патрапіць на прыём, дастаткова ўзяць з сабой пашпарт, працоўную кніжку і дакумент аб адукацыі.

– Нават калі няма ніякай адукацыі ў чалавека, мы яму прапануем хаця б сезонную работу ў сельскіх гаспадарках.

Але калі вы маеце вышэйшую адукацыю і свабодна валодаеце персідскай мовай, то і такому спецыялісту работа ў Маладзечанскім раёне знойдзецца.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

## Якому спецыялісту ў Маладзечне прапануюць заробак у 1200 рублёў у месяц?

МАЛАДЗЕЧНА

**На 27 сакавіка ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама прапаноўвала спецыялістам 97 вакансій.**

Усяго шукаюць 207 спецыялістаў.

Заробак больш за 500 рублёў прапануюць васьмі спецыялістам (гл. табліцу)

| Спецыяліст | Заробак (рублі) | Графік | Патрабаванні |
|---|---|---|---|
| Майстар участка | 600 | Пастаянная работа ў першую змену | Сярэдняя спецыяльная адукацыя, работа звязная мантажом вырабаў з ПВХ-профілю |
| Загадчык вытворчасці | 700 | Пастаянная работа, гнуткі графік | Сярэдняя спецыяльная (тэхналагічная) адукацыя, досвед працы два гады |
| Галоўны бухгалтар | 700 | Пастаянная работа ў першую змену | Вышэйшая адукацыя |
| Доктар-спецыяліст (4 спецыялісты) | 750 | Пастаянная работа ў тры змены | Вышэйшая адукацыя |
| Галоўны бухгалтар | 800 | Пастаянная работа ў першую змену | Вышэйшая адукацыя |
| Жылоўшчык мяса і субпрадуктаў (5 спецыялістаў) | 1000 | Пастаянная работа ў першую змену | Прафесійна-тэхнічная адукацыя |
| Абвальшчык мяса (5 спецыялістаў) | 1000 | Пастаянная работа ў першую змену | Прафесійна-тэхнічная адукацыя, досвед работы |
| Дырэктар | 1200 | Пастаянная работа ў першую змену | Вышэйшая адукацыя, веданне прадуктаў хірургічнага шыўнога матэрыялу, тэхналогіі вытворчасці, спецыфікі работы, веданне замежных моў |

Заробак менш за 300 рублёў прапануюць работнікам культуры. Напрыклад, шукаюць акампаніятара, артыста тэатра лялек, бібліятэкараў, рэжысёра пастаноўшчыка, кіраўнікоў гурткоў, канцэртмайстра народнага ансамбля эстраднай музыкі, мастацкіх кіраўнікоў.

У адукацыйныя ўстановы патрабуюцца выхавальнікі, педагог-арганізатар, педагог-псіхолаг, трэнер па плаванні ў яслі-сад.

У сферы абслугоўвання шукаюць цырульніка, майстра па манікюры, афіцыянта.

Сярод медыкаў патрэбныя медыцынскія сёстры і фельчар-лабарант.

Таксама патрабуюцца галоўны інжынер, інжынер-канструктар, электраманцёры лінейных пабудоў электрасувязі і праводнага вяшчання, кіроўца аўтобуса.

У пераважнай большасці спецыялістам прапануюць заробак у 265 рублёў. Крыху больш абяцаюць заплаціць кіроўцу аўтобуса – 280 рублёў 80 капеек, галоўнаму інжынеру – 290 рублёў, электраманцёру падземных пабудоў камунікацый сувязі – 299 рублёў 88 капеек.

**Паводле ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама.**

170 рублёў - забавы, касметыка, падарункі

20 рублёў - мабільная сувязь

57 рублёў 54 капейкі - праезд

150 рублёў - прадукты

Заробак - 400 рублёў

# У сталіцы заробку хапае на тое, каб ездзіць, есці і піць

## Як размяркоўвае заробак дызайнер з Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

**Як ні банальна гэта гучыць, але аб прафесіі дызайнера інтэр'ера Веранікa Газава (на фота) з вілейскай вёскі Калодчына марыла з дзяцінства.**



– З малых гадоў я радавала бацькоў здольнасцямі да малявання, – расказвае мая субяседніца. – Я вельмі любіла майстраваць рукамі, дапамагаць бацьку ў майстэрні забіваць цвікі, будаваць "хаткі" са штор і крэслаў.

Жаданне Веранікі ўпрыгожыць уласны дом заўсёды было неверагодна вялікім. Я разумела, кажа дзяўчына, каб ажыццявіць хаця б адну сваю ідэю, мне неабходна заслужыць давер самага галоўнага чалавека ў сям'і – бацькі.

Усё гэта з гадамі і прывяло да свядомага выбару прафесіі. Летась Вераніка скончыла Інстытут сучасных ведаў імя Шырокава па спецыяльнасці дызайнера прадметна-прасторавага асяроддзя.

### Як дызайнеры ідуць працаваць кансультантамі ў мэблевы магазін

Адразу пасля заканчэння Вераніка разам з аднагрупніцай стварылі ўласнае бюро дызайну інтэр'ераў. Яно толькі пачало дзейнічаць.

А Вераніка тым часам атрымала пасаду дызайнера-канструктара ў адной са сталічных кампаній. Пасадай задаволеная. Бо, па словах дзяўчыны, адразу пасля інстытута маладыя дызайнеры ў лепшым выпадку могуць разлічваць на пасаду прадаўца-кансультанта ў мэблевым магазіне або салоне пліткі. Перспектыў ніякіх, таму многія сыходзяць у іншыя сферы.

Праца Веранікі заключаецца ў распрацоўцы канцэпцый інтэр'ера і ландшафту, у праектаванні малых архітэктурных формаў – фантанаў, дэкаратыўных вадаёмаў, лавак, ваз.

У Мінску, на прафесійны погляд Веранікі, людзі толькі цяпер пачалі разумець і адрозніваць добры густ, але ўплыў савецкага мінулага яшчэ доўга будзе вывятрывацца з іх свядомасці.

Пакуль у дызайнерскай кампаніі ў Веранікі выпрабавальны тэрмін. Афіцыйны заробак – 400 рублёў. Невялікі даход дае і дзейнасць уласнага бюро па дызайне інтэр'ера.

Пытанне жылля, злабадзённае для большасці прыезджых, Вераніку пакуль не турбуе. Яна жыве ў сваякоў і адчувае сябе тут як дома.

Калі з'явіўся пастаянны заробак, пачала сама купляць прадукты. Раней на гэта грошы давалі бацькі.

Я ведаю кошт грашам, прызнаецца дзяўчына, і не трачу іх абы на што. Яна можа адкладаць некалькі месяцаў, каб набыць якаснае абсталяванне для працы або падарунак родным. Гэта, на яе думку, больш важна, чым чарговая пара чаравікаў або новая сумка для сябе.

### На касметыку трачу мала, падкрэсліваю натуральную прыгажосць

Частка грошай ідзе на забавы: кіно, бары, кавярні. На касметыку і догляд за сабой Вераніка траціць мала, часцей падкрэслівае натуральную прыгажосць. Маршчынкі пакуль з'яўляюцца толькі ад смеху. Аднак яшчэ пару год – і буду вымушаная купляць крэм з серыі 25+, жартуе дзяўчына.

Асноўныя траты – гэта прадукты, перакусы ў кавярнях і праезд. Праязны ў Мінску на ўсе віды транспарту на месяц каштуе 57 рублёў 54 капейкі. Прыкладна 150 рублёў дзяўчына траціць на ежу. Рублёў 20 – мабільная сувязь. Застаецца прыкладна 170. З іх якраз і можна адкласці на абсталяванне для працы, набыць падарункі родным і схадзіць у кавярню або ў кіно.

Грошай не хапае заўжды, падводзіць вынік Вераніка. Хочацца больш падарожнічаць, траціць на новыя курсы і захапленні. Тым больш, у бліжэйшы час Вераніка плануе наняць кватэру на дваіх з сяброўкай. Тады расходы будуць іншыя.

Пакуль жа асноўная частка заробку ідзе на тое, каб есці і піць тое, што хочацца, і траціць на праезд з аднаго канца сталіцы ў другі на розных відах транспарту і час ад часу радаваць сябе і родных.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.03 | 30.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8854 | 1,8767 |
| Еўра | 2,0339 | 2,0242 |
| Злоты, 10 | 4,7532 | 4,7806 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2651 | 3,2928 |
| Грыўня, 100 | 6,9959 | 6,9469 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" 22.03 і 29.03** | | |
| Еўра | 2.0100/2.0400 | 2.0000/2.0370 |
| Долар ЗША | 1.8700/1.8900 | 1.8600/1.8770 |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.03 | 29.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | 15,89 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 7,13 | 6,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,65 | 3,35 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 5,38 | 3,95 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | 10,00 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,85 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | 2,50 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | 2,20 |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | 0,75 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | 5,20 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | 0,60 |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | 6,90 |
| Капуста, 1 кг | 0,35 | 0,35 |
| Морква, 1 кг | 0,65 | 0,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,55 | 2,40 |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | 3,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,75 | 2,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 2,65 | 2,70 |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | 5,50 |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | 3,49 |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | 0,45 |
| Памідоры, 1 кг | 3,40 | 3,80 |
| Агуркі, 1 кг | 3,60 | 3,80 |
| Перац, 1 кг | 3,90 | 4,50 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,85 | 3,50 |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | 6,95 |
| Бананы, 1 кг | 2,45 | 2,50 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,60 | 1,50 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,20 | 3,50 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | 0,50 |
| Сала, 1 кг | 10,00 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

## Аддзел унутраных спраў на транспарце прапануе здаць зброю добраахвотна

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 3 да 7 красавіка аддзяленне унутраных спраў на транспарце праводзіць комплекснае мерапрыемства "Арсенал".

Яно накіраванае на канфіскацыю зброі і боепрыпасаў, якія захоўваюць незаконна.

Асоб, якія здадуць зброю і боепрыпасы добраахвотна, вызваляць ад крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці.

Калі вам нешта вядома пра захаванне зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў, вы можаце паведаміць па нумарах тэлефонаў:
**8 (0176) 742416,**
**8 (029) 8637046**
або па нумары **102**.

**Тацццяна СУБАЧ, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

НАВІНЫ

## Кіроўца зачапіў раварыстку люстэркам

ВІЛЕЙКА

Сезон раварыстаў на Вілейшчыне пачаўся з аварыі, расказала "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

На скрыжаванні ў вёсцы Любань кіроўца-пенсіянер на "Пежо" збіў раварыстку. Пацярпелая – 26-гадовая жыхарка вёскі Більцавічы.

Раварыстка вырашыла павярнуць перад машынай. Ніякімі знакамі паварот не паказала.

Кіроўца хацеў пазбегнуць сутыкнення, але зачапіў дзяўчыну аўтамабільным люстэркам.

Ён спыніўся, аказаў першую дапамогу, выклікаў "хуткую".

У раварысткі – пералом ключыцы.

## Пашкодзіла чужую машыну і ўцякла

ВІЛЕЙКА

Закупіўшыся ў "Еўраопце", жанчына-кіроўца з'язджала са стаянкі. Яна дала задні ход і, выязджаючы, падрапала чужую машыну, якая стаяла побач.

Па словах сведкі, кіроўца выйшла са сваёй машыны, паглядзела на пашкоджаную. А пасля села і з'ехала.

Пра здарэнне яна не паведаміла ў міліцыю.

Цяпер жанчыну шукаюць. Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС Кацярыны Млечкі, жанчыне пагражае пазбаўленне правоў кіроўцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Валожынка скрала картку ў знаёмай, пакуль тая спала

ВАЛОЖЫН

20-гадовая дзяўчына скрадзенай карткай расплацілася ў магазіне.

Адбылося гэта ў лютым. Дзяўчына прыйшла да сваёй знаёмай у госці.

Калі гаспадыня заснула, госця забрала яе банкаўскую картку.

Пін-код карткі дзяўчына ведала даўно, не аднойчы пры ёй гаспадыня называла код.

У той жа дзень у магазіне дзяўчына за скрадзеныя грошы купіла пачак цыгарэт.

Цяпер ей па артыкуле "Крадзеж" пагражае ад 2 да 5 год абмежавання волі або зняволення.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі** і ў чарговы раз перасцярог:

– Не паведамляйце нікому свой пін-код, нават сяброўкам. І ў магазінах ці банкаматах уводзьце свой асабісты код як мага больш схавана. Парады відавочныя, але, як паказвае практыка, нагадаць пра гэта бывае не лішнім.

**Наталля ТУР.**

## Двое мужчын апякліся, калі тушылі мікрааўтобус

СМАРГОНЬ

Ноччу 24 сакавіка ў смаргонскую бальніцу звярнуліся мужчыны з апёкамі 1 і 2 ступеняў.

Высветлілі, што на тэрыторыі прыватнага прадпрыемства загарэўся маторны адсек мікрааўтобуса "Пежо-Баксёр". Мужчыны самастойна патушылі яго, але атрымалі апёкі. Адзін з іх працуе аўтаслесарам, другі – беспрацоўны.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, мела месца неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**Паводле сайта МНС.**



# Раскрылі серыю крадзяжоў драўніны з парку "Нарачанскі"

МЯДЗЕЛ

**Раніцай 25 сакавіка работнікі нацыянальнага парку "Нарачанскі" заўважылі, што недалёка ад Брусоў невядомыя мужчыны грузяць драўніну ў машыну.**



На месцы здарэння. Фота uvd-mo.gov.by.

Работнікі парку выклікалі міліцыю.

Яны растлумачылі міліцыянерам, што ехалі на аўтобусе на іншы аб'ект і заўважылі, як у МАЗ грузяць падрыхтаваны да вывазу лес.

Калі аўтобус спыніўся, ад грузавіка адбег невядомы і схаваўся ў лесе. Пры гэтым кіроўца аўтапагрузчыка застаўся на месцы.

Міліцыя высветліла, што вываз драўніны арганізаваў той чалавек, які схаваўся ў лесе. Для гэтага ён наняў грузавую машыну. Планаваў, што драўніну ў далейшым адвязуць у Маладзечна на прыватную вытворчасць для распілоўкі. Такім чынам, спрабавалі скрасці каля 22 кубічных метраў дзелавой драўніны, якая належыць Нацыянальнаму парку "Нарачанскі".

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку неўзабаве ўстанавілі асобу мужчыны, які хаваўся. А літаральна праз тры гадзіны і затрымалі яго. Гэта 26-гадовы раней судзімы за кіраванне аўтамабілем у стане ап'янення малады чалавек. Яго затрымалі ў знаёмай у пасёлку Княгінін Мядзельскага раёна.

На гэты час устанавілі, што ўжо не адзіны факт крадзяжу лесу, да якога мае дачыненне затрыманы. У ноч на 23 сакавіка выкралі больш за 26 кубаметраў дзелавой драўніны паблізу вёскі Азаркі.

Таксама ў супрацоўнікаў крымінальнага вышуку ёсць усе падставы меркаваць, што фігурант датычны да іншага аналагічнага крадзяжу ў мінулым месяцы.

Узбудзілі крымінальную справу. У рамках расследавання таксама дадуць прававую ацэнку дзеянням уладальніка аўтапагрузчыка і асобы, якая набывала выкрадзеную драўніну для далейшай перапрацоўкі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Дырэктара Смаргонскага агрэгатнага завода затрымалі за буйны хабар

СМАРГОНЬ

Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС выкрыла карупцыйную схему атрымання хабараў за пастаўку абсталявання для агрэгатнага завода.

У Мінску за атрыманне хабару у асабліва буйным памеры з доказамі злачынства затрымалі дырэктара гэтага прадпрыемства.

Мужчына атрымаў 18 тысяч еўра і 4 тысячы 600 долараў ЗША ад прадстаўніка адной з прыбалтыйскіх кампаній.

Грошы яму далі за спрыяльнае вырашэнне пытання аб заключэнні дамовы на гадавую пастаўку абсталявання для прадпрыемства. Гаворка пераважна ішла пра рухавікі да мініграктароў, якія выпускае завод.

Галоўным следчым упраўленнем СК Рэспублікі Беларусь узбудзілі крымінальную справу па частцы 3 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (атрыманне хабару).

Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пазбаўленне волі да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Цяпер вінаватага заключылі пад варту. Расследаванне крымінальнай справы працягваюць.

У сувязі з тым, што злачынныя маніпуляцыі нячыстых на руку кіраўнікоў перашкаджаюць рэалізацыі ў краіне інвестыцыйных праектаў, Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС праводзіць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы і маніторынг фінансава-гаспадарчай дзейнасці дзяржаўных прадпрыемстваў.

**Паводле сайта МУС.**

## Пажар на Вілейшчыне ў вёсцы з двума жыхарамі

ВІЛЕЙКА

Раніцай 22 сакавіка вілейскія выратавальнікі прыехалі ў вёску Лазавыя патушыць хлеў, а пабачылі згарэлы дом.

Вёска Лазавыя знаходзіцца ў Людвінoўскім сельсавеце. Тут засталіся два мясцовыя жыхары. Гэта людзі сталага ўзросту.

Адзін з іх каля 8:30 выйшаў на двор і ўбачыў дым у канцы вёскі. Мужчына выклікаў пажарных.

Калі выратавальнікі прыехалі, убачылі, што хлеў гарэў адкрытым полымем.

А побач тлеў дом, а дакладней, усё, што ад яго засталося, – падмурак. Па словах інспектара **Дзмітрыя Клешнякa**, дом згарэў ноччу. Ад яго полымя і перакінулася на хлеў.

Па словах вяскоўца, які выклікаў выратавальнікаў, ноччу ён чуў нейкі трэск, але падумаў, што гэта страляюць паляўнічыя.

У доме ніхто не жыў з 1987 года. Электрычнасці там не было, печкі не палілі. Прычыну пажару высвятляюць. Да праверкі падключыўся вілейскі РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Двое атруціліся шклоабмывальнікам. Жанчына памерла

СМАРГОНЬ

У Смаргоні высвятляюць абставіны атручэння дваіх чалавек, адзін з якіх памёр.

У ноч з 22 на 23 сакавіка ў вёсцы Арэхаўка Смаргонскага раёна ў 39-гадовага мясцовага жыхара рэзка пагоршыўся стан здароўя. Медработніку, які прыбыў па выкліку, мужчына паведаміў, што ўжываў з суседкай шклоабмывальнік. Мужчыну шпіталізавалі ў рэанімацыю.

Следчыя, супрацоўнікі міліцыі і эксперты знайшлі ў суседнім доме цела 40-гадовай мясцовай жыхаркі без цялесных пашкоджанняў.

Пры аглядзе яе дома канфіскавалі пластыкавую бутэльку з рэшткамі вадкасці, якую накіравалі на экспертызу.

Следчыя высветлілі, што абедзве асобы вялі асацыяльны лад жыцця, злоўжывалі спіртным. Мужчына не працаваў, прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Жанчына была афармленая сацыяльным работнікам па доглядзе за яго бацькам.

Праверка па дадзеным факце працягваецца.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# “Гадзіннік лепш звяраць па беларусах, будзе дакладней”

## Немка пра тое, якія немцы на самой справе

МАЛАДЗЕЧНА

**Прыходзяць хвіліна ў хвіліну, не разумеюць жартаў, не любяць гасцей, сквапныя. Мяркуем, што не раз чулі падобныя міфы пра немцаў.**

Каб высветліць, ці так гэта на самой справе, мы сустрэліся з 19-гадовай дзяўчынай з Германіі **Мірыям Кузменкай**, якая цяпер працуе выкладчыцай нямецкай мовы ў гімназіі №10 у Маладзечне. Трапіла ў Беларусь з Германіі дзякуючы валанцёрскай праграме.

### Газіннік звярайце па беларусах

З маёй субяседніцай мы дамовіліся сустрэцца а палове дзясятай. Ужо ў 25 хвілін я пачала паглядаць на гадзіннік з хваляваннем, дзе мая субяседніца. І была надзвычай уражаная, калі акурат а палове дзясятай Мірыям паказалася ў дзвярах, здзівіліся і іншыя работнікі рэдакцыі – “вось гэта пунктуальнасць”.

– Шчыра прызнаюся, што беларусы больш пунктуальныя за немцаў, – адзначае дзяўчына. – Большасць стараецца прыйсці за 10-15 хвілін да мерапрыемства альбо сустрэчы. Немцы імкнуцца прыходзіць своечасова, аднак не заўсёды атрымоўваецца, часам гэта залежыць ад транспарту, які прыходзіць не ў час. Шмат залежыць і ад самога чалавека.



Мірыям зазначае, што беларусы вельмі ўсмешлівыя. За той час, што правяла ў Маладзечне, і сама стала часцей усміхацца.

Фота Наталлі ТУР.

### Пра жарты: “Часам не ведаю, смяяцца тут ці плакаць”

Мірыям называе нямецкі гумар чорным. І часам сама не разумее, ці смяяцца над пэўным жартам, ці, наадварот, плакаць, выбірае аптымальны варыянт – быць стрыманай.

Нямецкія анекдоты больш сухія, няма сюжэтаў пра жыццё, цешчу, як у славян. Затое шмат палітычных жартаў.

– Са мной у дзясятай гімназіі працуе валанцёр з Германіі, – расказвае Мірыям. – І часам бачна, што ён не разумее жартаў, просіць патлумачыць сітуацыю. Я таксама не заўсёды магу зразумець сэнс анекдотаў, якія расказваюць у Беларусі. І справа не ў пачуцці гумару, а ў тым, што не так добра адчуваю мову. Словы разумею, аднак мне не смешна.

Маладая настаўніца адзначае, што вельмі часта вучні жартуюць з яе акцэнту, некаторыя словы своеасабліва вымаўляе. Аднак не крыўдзіцца, з большай прагай вывучае мову.

### Міліцыю выклікаюць па любой прычыне

А вось гэта сітуацыя зусім не міфічная. Немцы сапраўды вельмі пільныя.

– Аднойчы нам падалося, што ў доме не так, як звычайна, – усміхаецца Мірыям. – Вырашылі выклікаць міліцыю. Аднак, прыехаўшы да нас, яны не заўважылі нічога падазронага, пасмяяліся з нас. Але гэты прыезд супакоіў нашу сям'ю.

Дзяўчына адзначае, што выклікаць міліцыю могуць, калі гучна іграе музыка. У спецыяльную рамонтную службу мінакі тэлефануюць, калі бачаць, што ў вас зламаўся аўтамабіль.

### Ідзяце ў госці – прыхапіце падарунак

Большая частка знаёмых Мірыям стараецца сустракацца з сябрамі ў кавярнях, парках, на вуліцы. Прыйсці ў госці без папярэджання лічыцца дрэнным тонам. Гасцей запрашаюць за тыдзень да самога мерапрыемства.

Абавязкова варта прыхапіць з сабой невялічкі падарунак, гэта можа быць пачастунак на стол, невялічкі сувенір, але не з пустымі рукамі.

– У беларусаў прынята ставіць на стол адразу ўсе стравы, – дзеліцца назіраннямі Мірыям. – У Германіі ўсе стравы прыносяць паступова: спачатку суп, пасля салату і пірог.

**Калі ў Германіі вас запрасілі на вячэру а восьмай вечара, можна не спяшацца. Спакойна прыходзьце да дзесяці.**

### Не скупыя, а ашчадныя

З кожнага заробку абавязкова адкладаюць пэўную суму на навучанне дзяцей, падарожжы. Дакладна разлічваюць, якая сума пойдзе на ежу, паслугі.

Мірыям лічыць, калі дакладна планаваць свае расходы, будзе лягчэй збіраць на нейкую пакупку.

– У Беларусі часта чую пытанні адносна грошай, – расказвае дзяўчына. – Часцей за ўсё пытаюцца, ці ўсе людзі ў Германіі маюць вялікі даход; колькі зарабляюць? Аднак і самі беларусы расказваюць пра свае заробкі, у Германіі гэтыя тэмы нібы пад забаронай.

### Шпількі і сукенкі – толькі на сьвяты

Гэта сцвярджэнне вернае. Большасць жанчын носяць зручнае адзенне і абутак: джынсы, кофту, красоўкі. Нават настаўнікаў у школе можна ўбачыць у такім вобразе.

Чаравікі на абцасах, сукенкі і спадніцы надзяваюць, калі ідуць у госці альбо на дыскатэкі.

Мірыям адзначыла, што з дзяцінства любіла хадзіць у сукенках, аднак насіла іх са зручным абуткам. Калі ж прыехала ў Беларусь і ўбачыла, наколькі прыгожа і ярка адзяваюцца жанчыны, гэта стала штуршком, каб змяніцца. Цяпер у яе гардэробе шмат абутку на абцасах, на танкетцы.

– Джынсы забылася, калі надзявала. Нават у магазін толькі ў сукенцы, – расказвае дзяўчына. – Нядаўна да мяне ў госці прыехала мама, была ў адзенні, у якім ходзіць у Германіі. Адразу, як убачыла яе, ускрыкнула: “Мама, як ты выглядаеш! Табе тэрмінова трэба адзець сукенку, тут апранаюцца па-іншаму!”

**Пра тое, якой Беларусь бачыцца Мірыям, чытайце ў наступным нумары.**

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

---

## Начальнікам аддзела ідэалагічнай работы Маладзечанскага райвыканкама стала Соф'я Філістовіч

МАЛАДЗЕЧНА

Соф'я Філістовіч (на фота) узначаліла аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама 24 сакавіка.



Фота з сайта ct.by

Да гэтага яна была намеснікам начальніка аддзела адукацыі. Цяпер часова выконвае абавязкі намесніка начальніка **Аксана Семеж**.

Соф'я Пятроўна Філістовіч нарадзілася ў Маладзечне. У 1998 годзе скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 2014 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці “дзяржаўнае ўпраўленне сацыяльнай сферай”.

Намеснікам начальніка аддзела адукацыі райвыканкама Соф'я Філістовіч працавала ад 1 лістапада 2012-га да 23 сакавіка 2017 года. Да гэтага, ад 2010-га да 2012 года, яна была начальнікам аддзела дашкольнай, агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

---

## На Вілейшчыне нарыхтавалі 87 тон бярозавага соку

ВІЛЕЙКА

У вілейскім доследным лясгасе працягваюць нарыхтоўку бярозавага соку.

Ужо дасягнулі лічбы 87 тон.

13 тон прадалі насельніцтву. 58 тон накіравалі ў Барысаў на кансервавы завод.

16 тон – на прадпрыемства “Ілаўскае”, што на Мядзельшчыне.

Пра гэта расказала намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце **Таццяна Анішчык**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Мастакі не паміраюць. Яны становяцца нябачнымі

*Прылёг адпачыць на радзіме,*
*Ў зямельцы сустрэў новы век.*
*Ты ў сэрцах нашых заўсёды*
*філосаф, мастак, чалавек.*

Юрась Церабун.

**З Юрасём Герасіменкам упершыню мне давялося спаткацца ў студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пры Маладзечанскім абласным Доме народнай творчасці.**

Яго бацька **Павел Пятровіч Герасіменка** праводзіў з намі заняткі па асновах скульптуры. Заўсёды ў берэце, патрабавальны і строгі, ён усім нам вельмі падабаўся.

**Сямён Іванавіч Кісель** вёў малюнак. **Эмір Мустафавіч Асановіч** – жывапіс. **Ядвіга Іосіфаўна Раздзялоўская** – дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. У **Кастуся Іванавіча Харашэвіча** было агульнае кіраўніцтва студыяй. Ён ведаў кожнага з нас і прысутнічаў на занятках і праглядах.

Выхаваны ў лепшых традыцыях сацыялістычнага рэалізму, я не мог зразумець тагачасны авангард.

Чаму на выставе твораў выкладчыкаў студыі ў Эміра Мустафавіча Асановіча намаляваная нажоўка толькі з пяццю буйнымі зубамі. Студыец **Пётр Дзёмаў** параіў звярнуць увагу, як перададзены метал і драўляная ручка, а якая дасканалая агульная кампазіцыя нацюрморта.

Убачыўшы, што я ў роспачы, студыйцы вырашылі мне дапамагаць. **Іван Смальякоў** кажа:

– Твой збанок такі прыгожы і падобны, але ён не матэрыяльны. Старайся маляваць так, каб па ім можна было пастукаць.

Больш за ўсіх мне дапамагаў Юрась Герасіменка:

– Малюй смела, размашыста, энергічна і ніякага "мыльца". Калі бачыш, што дрэнна, не тры малюнак да дзірак. Хуценька бяры новы ліст. Гумка створаная толькі для таго, каб азначыць нейкі блік.

Калі пачнецца праца над нацюрмортам, не саромейся заняць зручнае месца і не сядай далёка.

Падыдзі бліжэй і вывучы прадметы. У аснове збанка шар. Вось і трымайся яго. Вывучы, як мацуецца ручка, як зробленае дно. На невялічкім лісце паперы зрабі накід нацюрморта, каб потым на вялікім не давялося перасоўваць прадметы. Алоўкам на выцягнутую руку вызначы суадносіны прадметаў у маштабе.

Пасля гэтага, як кажуць дзеці, жадання пакінуць вучобу ў мяне больш не было.

Юрась прыходзіў на заняткі з вялізнай кардоннай папкай з ручкамі з вяроўкі. Абмяркоўваў свае самастойныя хатнія працы з педагогамі. Па ўсім было відаць, што ён рыхтуецца да паступлення ў Мінск.

Неўзабаве мы даведаліся, што яго залічылі ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне прамысловай графікі.

Глыбіня мыслення, незвычайная працаздольнасць і бездакорнае валоданне малюнкам дазволілі Юрасю Герасіменку перавесціся на аддзяленне графікі, аб якім ён так марыў.

Пасля заканчэння БДТМІ яму прапанавалі працу на кафедры, але ён адмовіўся. Хацеў быць бліжэй да зямлі і простых людзей. Да таго ж, у яго ўжо была свая сям'я. Юрась ажаніўся адразу як стаў студэнтам.

Які ён быў шчаслівы, калі трымаў у руках першую дзіцячую кніжку "В городке над Нёманом" са сваімі ілюстрацыямі. У той момант я быў не менш шчаслівы за яго, калі прачытаў: "Художник Юрий Герасименко".

Назаву ўсе кнігі, якія ён ілюстраваў, каб чытачы ці будучыя студэнты мелі магчымасць знайсці іх у бібліятэках.

- Генадзь Каханоўскі "Адчыніся, таямніцу часу",
- Мікола Хведаровіч "Споведзь перад будучыняй",
- Марыя Каўнацкая "Рагась з даліны Растокі",
- Васіль Вітка "Мы будуем метро",
- Васіль Вітка "Казкі і краскі",
- Васіль Зуёнак "Маўчанне травы",
- "Каток – залаты лабок". Беларускія народныя казкі,
- Якуб Колас. Избранное,
- Васіль Быкаў "Знак бяды".

Зноў Маладзечна. Юрась Герасіменка кіраўнік студыі, да яго вёў заняткі **Валянцін Васілевіч**. Студыя была на другім паверсе сённяшняга Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Студыя адымала шмат часу, сіл і здароўя. Аб уласнай творчасці не магло быць нават гаворкі. Выдавецтва засыпала пісьмамі, патрабуючы ў тэрмін выконваць заказы па афармленні кніг.

Не меў часу схадзіць дамоў паесці, бо на ўліку была кожная хвіліна.

Пасля таго як закрылі афарміцельскі цэх мастацкага камбіната ў Маладзечне, шмат мастакоў пайшло працаваць педагогамі.

Адкрылася гімназія-каледж па музыцы і выяўленчым мастацтве. Дырэктар дзіцячай мастацкай школы **Васіль Аляксеевіч Таркан** набраў групу выпускнікоў, якія пажадалі вучыцца далей. Стала цеснавата. Жылі па прынцыпе "хоць у цеснаце, але ў мастацтве".

Калі ў музычным каледжы імя Агінскага было створанае аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, Юрась Герасіменка перайшоў туды на працу.

Шмат працаваў як станковы графік. Прыйшлі поспех і заслужаны аўтарытэт міжнароднага ўзроўню.

Здавалася, толькі жыць і працаваць, але стала падводзіць здароўе.

Ён згас як касцельная свечка за кароткі час, пражыўшы толькі 48 гадоў. Напрыканцы жыцця да свайго прозвішча дадаў дзявочае прозвішча маці **Марыі Людвікаўны Жызнеўскай**, такая была яго апошняя воля.

Пахаваны ў Даўгінаве на сваёй радзіме.

Мастацтвазнаўца **Пётр Васілеўскі** сказаў пра Юрася Герасіменку-Жызнеўскага:

– Яму не хапіла нейкіх пяці гадоў жыцця, каб пра яго можна было гаварыць не як пра выдатнага і таленавітага мастака, а як пра геніяльнага.

Сыны і нявесткі таксама закончылі Акадэмію мастацтваў.

**Павел** і **Алеся** – скульптары. Жывуць і працуюць разам у Брэсце. У іх сынок **Алёшачка**.

У **Андрэя** спецыяльнасць мастацкая апрацоўка металу. Жонка, **Святлана**, – мастак-кераміст. Сын, **Юра**, – студэнт. Жывуць і працуюць у Мінску.

**Валянціна Васільеўна Герасіменка** – іх маці, бабуля – народны майстар па вязанні мастацкага фонду Беларускага Саюза мастакоў, жыве ў Маладзечне.

***

Мастакі не паміраюць. Яны становяцца нябачнымі і жывуць побач з намі ў сваіх творах, вучнях і ўспамінах.

**Юрась ЦЕРАБУН, былы выкладчык цымбал, мастак. Маладзечна.**




1. Юрась Герасіменка-Жызнеўскі. Фотаздымак Міхаіла Асаевіча. Работы мастака: 2. Аўтапартрэт, 1978 г., 3. Акт, 1991 год, 4. Ілюстрацыя да аповесці В.Быкава "Знак бяды", 1984 год. З альбома "Юры Герасіменка. Графіка".




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

**Молодечненский торгово-экономический колледж** приглашает 8 апреля 2017 года в 10.00 **на ДЕНЬ открытых дверей**
Тел. для справок (8-0176) **77-01-51**
УНП 600095711

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтамабіль “Жыгулі” на запчасткі. Вілейка. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*
- ВАЗ-21093, 1994 г.в., 1,5 бензін, торг; Т-40М без дакументаў. Т. МТС (8-029) 5031492, Вэлком (8-044) 5366026.*
- Опель-Вектра В, 1997 г.в., 2,0 ТД, белы. Т. (8-029) 5678090.*
- Рэно-Эспэйс, 1998 г.в, 2,0 газ-бензін, сіні. Т. (8-033) 6573695, (8-029) 2551334.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1999 г.в, 2,0 НДІ, серабрысты, г/у, ц/з, л/д, скура, 5000 руб. Т. (8-029) 6377478.
- УАЗ-469, 1978 г.в., бартавы, дробны рамонт. Т. (8-029) 8724019.
- ФВ-Пасат В2, універсал, бензін, па запчастках, з дакументамі, ад 20 руб. Вілейка. Т. (8-029) 6517444.
- ФВ-Пасат В2, універсал, на хаду, 1984 г., бензін, 5КПП, шмат запчастак -1180 руб. Вілейка. Т. (8-029) 6517444.
- ФВ-Пасат, 1998 г.,1,8 т, бензін, універсал, цёмна-зялёны. Вілейка. Т. (8-029) 8343670.
- Фіят-Брава, 1997 г.в., 1,6 бензін, колер шэры, добры стан, танна. Тэрмінова! Т. Вэлком (8-029) 9346173.
- Форд-Эскорт, 1992 г, 1,6 бензін, на запчасткі, на хаду. Т. (8-033) 3235320.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Рухавік на 312 Пежо 406, 1,8Б, стол камп’ютарны. Т. (8-029) 6189079.
- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

**Купим АВТО в любом состоянии, расчёт на месте. Тел. (8029) 844 40 04**

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Ваш аўтамабіль дорага. Т. (8-029) 5016877.*
- Дапамагу прадаць ваш аўтамабіль. Т. (8-029) 5016877.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Любую рэтра-тэхніку да 50-х гг. Т. (8-029) 6517444.
- Сітраэн-Ксара, можна аварыйны. Т. (8-025) 9249978.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, 8, кв. 116; 5 паверх, пад’езд 4. Агульная плошча 24,4 кв. м, жылая 12,6 кв.м, кухня 5,5 кв. м, санвузел сумешчаны 2,9 кв.м, балкон зашклёны, вокны ПВХ, дзверы металічныя. Побач банк. Т. (8-033) 6332446.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, агул. плошча 23,6 кв.м, 3 паверх, цана дагаворная. Т. (8-0176) 544348.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 2-павярховы цагляны дому Вілейцы, зямельны участак 11 сотак. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 2 паверх. Т. (8-029) 7660483.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223..*
- 2-пакаёвая кватэра ў Любані, еўрарамонт. Т. (8-029) 8460439.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 5 паверх, плошча 64,3/36,4/8,5. Тэрмінова! Т. (8-029)1973497, (8-029)1841007.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Астраўца. Добры рамонт. Т. (8-029) 6795294.*
- Будынак былой пачатковай школы разам з зямлёй 1,8 га у в. Малінавая Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5665809.*
- Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*
- Гараж у ГК № 24 у Маладзечне. Т. (8-029) 6637733.*
- Гараж у ГК №1 г. Маладзечна. Т. (8-029) 6262756.*
- Дача (цэгла), СТ “Гранат”, 10 км ад Маладзечна, возера. Т. (8-029) 3947252.*
- Дача ў садоўніцкім таварыстве “Дружба-Прынта”, 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8597408.*
- Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ, водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом вялікі і добры, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.
- Дом жылы ў Маладзечне 85/34 кв.м, пячное ацяпленне, халодная вада ў доме і ў двары, гаспадарчыя пабудовы, 0,06 га (Старое Места). Дача 6х6,5 кв. м, 2 узроўні, вада на ўчастку, 0,04 га, 48,2 кв.м, СТ “Крынічка-83” (“Роднічок-83”), Мароські.Т. (8-025) 6696469, (8-0176) 500337.
- Дом з цокальным паверхам, участак 6 сотак, 17 км ад г. Маладзечна, ст. электрычкі “Ласі”, побач лес, дачны кааператыў “Зялёныя горкі”, 30 000 руб. Т. (8-029) 3925149.*
- Дом і ўчастак у Мядзельскім раёне, в.Каранішчы. Ёсць дадатковыя пабудовы (гараж, лазня, летняя кухня, калодзеж, хлеў). Дом знаходзіцца на ўскраіне вёскі, побач лес і чыгунка, 13000 руб. Т. МТС (8-033) 6288715.
- Дом з мэбляй, гасцявы домік у в. Рыбакі, 5 км ад Смаргоні, 20 сотак, побач лес, рака Вілія. Т. (8-029) 2629775.
- Дом пад знос у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 8609355.
- Дом у а/г Куранец Вілейскага раёна. Т. (8-029) 7752165, (8-01771) 23871.
- Дом у аграгарадку Крывое Сяло, газавае ацяпленне, вада, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 1191820.
- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом у в.Валэйкавічы Смаргонскага раёна, цана дагаворная. Т. (8-029) 8659477.*
- Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (ст. Валожын), участак 0,21 га. Т. (8-044) 4586050.*
- Дом у вёсцы Яжджэнцы Мядзельскага раёна, 20 км ад к.п. Нарач. Побач лес, рэчка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы па вул. Мірнай,15. Т. (8-029) 2574576.*
- Дом, лазня, калодзеж, участак 14 сотак, рэчка, лес побач, у в. Кардон Вілейскага р-на. Т. (8-029) 2928728.
- Паўдома ў вёсцы Куранец Вілейскага раёна, нядорага. Т. МТС (8-029) 2599068.

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

### МЯНЯЮ

- Дом недабудаваны, участак 15 сотак, жылую часовую пабудову на кватэру. Магчымы продаж. Т. (8-029) 5605781.*

### ЗДАМ

- Пакой у Маладзечне па вул. Віленскай. Т. (8-029) 5019550.*
- Паўтарачную кватэру ў Маладзечне па вул. В.Гасцінец з частковай мэбляй. Т. (8-029) 7076867.
- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*
- У арэнду альбо прадам працуючы аўтамагазін у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры г. Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васковіч А.А..*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баяніст. Фота. Відэа. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- Відэаздымка падзей. Т. (8-033) 3494488.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У. А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абслугоўванне і рамонт камп’ютараў. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

**СТО «АртАлексСервис»** для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- установка и продажа стекол
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
Наличный и безналичный расчёт
**АВТОЗАПЧАСТИ** в наличии и под заказ
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- Замена ГРМ, сцепления
- Восстановление суппортов
- Осмотр, ремонт ходовой
- Замена масла
- Развал-схождение
- Ремонт глушителя
- Шиномонтаж, аргон

(80176) **58-10-30**, (029) **876-51-17**, (029) **335-48-04**, (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2 (рядом с таможней). Работаем без выходных.*

**Продается дизельный погрузчик HC (HANGCHA)**
- грузоподъёмностью 1,5 тонн. Модель CPCD15N-RW9
- Номинальная грузоподъёмность – 1500 кг.
- Высота подъёма вил 3000-6000 см
- Год выпуска 2008
- В эксплуатации с 2009 года.
- Отработано 1132 мото-часа
- Состояние отличное
- Цена договорная

Тел. (8-029) **101 91 02** ЗАО «Флометр» УНП 690506390

- ☑ **КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА АВТО,**
- ☑ **ЧИП-ТЮНИНГ,**
- ☑ **ВОССТАНОВЛЕНИЕ ШАРОВЫХ ОПОР,**
- ☑ **УДАЛЕНИЕ ЕГР, САЖЕВОГО ФИЛЬТРА, КАТАЛИЗАТОРА.**

chipauto.by
Т. (8-029) **342 62 22.**
ЧУП "ЛенВиРо" УНП 691505812

**Весеннее предложение для автолюбителей!**
АКЦИЯ!
**Весь март и апрель в продаже АККУМУЛЯТОРЫ***
**55 Ач – 75,00 рублей! 60 Ач – 78,00 рублей!**
**Широкий выбор аккумуляторов разных производителей!**
Телефоны в Молодечно (0176) **58-12-48**, (029) **63-63-166**, (033) **323-02-17.**
**А также всегда покупаем и принимаем в зачёт старые аккумуляторы!**
ООО "Батрикс"УНП 691893243
*Количество акционного товара ограничено!

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Антэны спадарожнікавыя: наладка, рамонт. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаю ўкладку пліткі і абліцоўку сцен. Т. (8-029) 7709929.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Гравіроўка партрэтаў. Марчанка В.У. УНП КА 9946513. Т. (8-033) 3518017.*

• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, крокvenная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Праду вельмі якасна сабачаю поўсць (шэрсць), казіны і трусіны пух. Куплю электракалаўрот ў рабочым стане. Т. (8-029) 7672496.

• Рамонт і перацяжка мяккай мэблі любой складанасці. ІП Буслаўскі А.В. УНП 191241089. Т. Вэлком (8-044) 7737861, МТС (8-029) 7618836.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, “АТЛАНТ“, BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП “Планета інтэлекту” УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Спілуем дрэва любой складанасці. ІП Шабуня С.П. УНП 691885349. Т. МТС (8-033) 6510342, Вэлком (8-044) 4784873.

• Спілуем дрэва любой складанасці. Магчымы вываз. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. МТС (8-029) 8177983, Вэлком (8-029) 3301964.

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Узворванне і акучванне, пасадка і ўборка сельгаспрадукцыі малагабарытным трактарам Беларус 320.4, мотаблокам з глебафрэзай. Т. (8-029) 3414764.

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства “Бізнес-Дэталь” УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• **ВАГОНКА**, **ДОШКА ПАДЛОГІ**, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП “Маркціна Білд” УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Культыватары трактарны, конны, бароны, воз, аўтабагажнік альбо мяняю на кармы. Т. (8-029) 9156731.

• Мотакультыватар “Магнум”, плуг. Т. (8-029) 6843087.*

• Мотакультыватар “Майстар МК-265”, б/у, 5,5 к.с Т. МТС (8-033) 6602965, (8-01771) 66046.

**Бытавая тэхніка**

• Брытва электрычная “Філіпс”, амаль не ўжываная. Т. (8-029) 5019550.*

• Газавая пліта “Гефест” 5100-02, 50 см, электрараспальванне, грыль, ражон (вертел). Выдатны стан, 350 руб. Т. (8-029) 1529402.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП “Ліцераль”. УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Распрадаецца мэбля б/у танна, у добрым стане: канапа раскладная з крэслам, тэлевізар, тумбачка пад тэлевізар, секцыя з адзежнай шафай, прыхожая, тумбачка для прыхожай. Т. (8-0176) 770310, Вэлком (8-029) 6870310.

• Мяккі куток 500 руб, тумба 20 руб, дыван (ковер) 4,7х2,2 120 руб, люстры – усё б/у. т. (8-0176) 549127, (8-029) 8787532.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вуллі новыя, паўцаны ад магазіннай, пры пакупцы да 15 красавіка – падарунак 10 рамак. Т. (8-0176) 532543, (8-029) 9950326.*

• Каза дойная і козачка 15 мес., парасяты чорныя 6 мес. узросту, 1 пара. Т. (8-029) 5044566.

• Пчолы ў вуллях – пасека. Т. (8-029) 6309459.*

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя, 03.03.2017 года нараджэння, і падгадаванае шчаня, дзяўчынка, 6 месяцаў. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Вароты гаражныя. Т. (8-029) 5028269.*

• Вокны, шклопакеты, дрэва, фірма “Забудова”, нестандартныя, 185х113 см - 4 шт.; 185х143 см - 1 шт. Т. (8-029) 5319640.*

• Кацёл-печ у лазню, 390 руб. Т. (8-033) 6535349.

• Кнігі з прыватнай бібліятэкі. Т. (8-029) 5019550.*

• Ліст металічны, 5 шт. Т. (8-029) 5028269.*

• Апілкі з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матацыкл “Мінск”, Мотаблок МТЗ. Т. (8-029) 6299208.*

• Мотаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёлу**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321 Казлоўскі А.Н.

• Козліка ад высокаўдойнай казы. Т. (8-044) 7125657.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную дорага, ад 2-х тон яшчэ даражэй. Т. (8-029) 6540329, (8-033) 3658897.*

• Драбіны (стремянку) алюмініевыя з рабочай вышынёй не менш за 4 м. Т. (8-029) 6927353.*

• Запчасткі да маставых кранаў. Т. Вэлком (8-029) 6764425.*

• Кнігу “Памяць” розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу “Памяць”, розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

## ІНШАЕ

• Гаспадар ВАЗ-21053 белага колеру, у Маладзечне, патэлефануй Машко В.А. Т. (8-029) 3386126.

## ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Агароджы, падмуркі, сцяжкі, сайдынг, блокі, фасад. Т. (8-029) 2523998.*

• Вадзіцель з асабістым аўтамабілем (Транспарцёр Т-5), 8 месцаў, шукае працу, можна разовую. Т. (8-033) 6387708.*

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

• Дах, сайдынг, сафіт, фасад, тынкоўка. Т. (8-029) 5674334.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Патрабуецца памочнік, красавік-май, г. Вілейка. Т. (8-029) 7099991.*

**Акция по реализации газовых плит!**

Филиал ПУ «Молодечногаз» обращает внимание своих абонентов, что в соответствии с «Правилами пользования газом в быту», утвержденными постановлением Совета Министров Республики Беларусь 19.11.2007г. № 1539 (в редакции постановления Совета Министров Республики Беларусь 24.12.2013 № 1136) потребитель газа обязан по истечении срока эксплуатации газоиспользующего оборудования свыше 20 лет, произвести его замену.

Для обеспечения Вашей безопасности, при пользовании газом в быту, и соблюдения требования вышеуказанных правил, филиал ПУ «Молодечногаз» производит реализацию газовых плит для замены отработавших 20 и более лет, по цене завода-изготовителя.

В рамках акции реализуются газовые плиты производства СП ОАО «Брестгазоаппарат» марок ПГ 3200-06, ПГ 6100-03, ПГ 1500 К 32. Газовые плиты доставляются и устанавливаются работниками филиала ПУ «Молодечногаз» БЕСПЛАТНО.

**Рассрочка до 90 дней!**

Справки по телефонам:
**Г. МОЛОДЕЧНО** 74-66-51, 74-72-30
**Г. МЯДЕЛЬ** 5-09-91, 5-01-41
**Г. ВИЛЕЙКА** 2-99-04. 2-98-04

УНП 100008077

**Отделка домов сайдингом**
**Водосток**
*Замер, доставка, монтаж*
*Возможна рассрочка*
Тел. (8-029) **708 59 07,**
(8-029) **123 28 42**
ИП Белицкий А.В. УНП 690688577

**Кровельные работы любой сложности и материала**
Тел. (8-029) **854 37 83**
(8-044) **796 26 22**
ИП Буймола А.Л. УНП 691884010

**Спутниковое и цифровое ТВ**
**Все виды услуг**
Тел. (8-029) **561 39 72**
ИП Новик С.С. УНП 691398368

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
а также вынужденный убой.
Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) **777-44-48**
(8-029) **393-92-56**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

На постоянную работу требуется
**машинист**
На Гусеничный экскаватор
Вибракаток грунтовый
*Оплата труда достойная.*
Тел. (8-029) **153-48-73**
ЧУП “Мол Агрокорм” УНП 690305763

**ОКНА РАМЫ ДВЕРИ ПВХ**
**ДЁШЕВО!**
*акции!*
(0176)**501-503**
(029) **884-62-11** мтс
(025) **762-06-42** лайф
(029) **804-06-04** (Viber)
**Без выходных!**
ООО «БелМэйджерСтрой» УНП 691517845

КУПЛЮ ДОРОГО
**ГОВЯДИНУ КОНИНУ БЫКА**
**живым и убойным весом**
Производим вынужденный дорез.
8(044)713-50-80, 8(029)843-14-94

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
- балконные рамы
- отделка откосов
- москитные сетки
**НИЗКИЕ ЦЕНЫ!**
**ОТЛИЧНОЕ КАЧЕСТВО!**
**ГАРАНТИЯ 2 ГОДА!**
**Vel. (8-029) 384-41-92**
**MTS (8-033) 374-41-30**
ИП Бураковский УНП 691518946

В связи с открытием производства в г. Молодечно
ООО «**Марк Формэль**» приглашает на работу
**ШВЕЙ трикотажных изделий,**
☑ Сменный график работы
☑ Полный соц. пакет
☑ Дружный коллектив
☑ Комфортные условия труда
☑ Уютная и оборудованная комната для приёма пищи
☑ Доставка работников к месту работы и обратно.
Телефоны для справок:
(8-029) **604-00-74,**
(8-0176) **50-56-46** - отдел кадров,
**г. Молодечно, ул. Грамадовская, 47**
УНП 690591512

**Бурение скважин на воду**
*Низкие цены, рассрочка, подвод воды в дом*
Тел. (8029) **944-72-24**,
(8033) **691-17-59.**
ИП Матин А.Н. УНП 691410712

**Бурение скважин на воду**
Качество/Договор/Гарантия
Тел. (8-029) **133 65 74**
**844 65 74**
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

**БЛАГОУСТРОЙСТВО МЕСТ ЗАХОРОНЕНИЙ**
Тел. (8-029) **861 03 36**
ИП Марченко С.Г. УНП 600485709

**Благоустройство территорий мест захоронений**
Тел. (8-029) **277 92 04**
ИП Пекарский А.П. УНП 691897647

**REHAU**
ИП Шульжицкий О.В. УНП 691882990
**ЭНЕРГОСБЕРЕГАЮЩИЕ ОКНА**
**Балконные раздвижные рамы из ПВК и алюминия**
**Москитные сетки**
**Отделка откосов**
**Гарантия 5 лет**
**г. Молодечно, ул. Виленская, д.1, к.111**
Тел. **8-029-153-10-37** (Велком)
**8-033-363-39-09** (МТС)
Т/факс: **8-0176-50-26-37**

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
**Балконные рамы**
➲ УСТАНОВКА
➲ ОТДЕЛКА ОТКОСОВ
➲ ГАРАНТИЯ 10 ЛЕТ
➲ СКИДКИ -10%
**8-029 756-65-86**
**8-029 661-58-34**
ИП Тавтын А.П. УНП 691518017

**САЛОН окон и дверей**
-Двери входные и межкомнатные
-Окна
-Козырьки
Рассрочка без процентов
dveri-ok@tut.by
(8-029)662-23-83
(8-033)662-23-83 (8-0176)70-66-09
г.Молодечно, ул. В.Гостинец, 111А,
2 этаж (над универсамом «Рублевский»)

скидка до 20%
ООО «МЕГА ЛИТАС»
**ПАМЯТНИКИ**
От **300** руб. за надгробный комплект из гранита
Ограды, Скульптуры, Вазы, Плитка
- г. Минск - т. 8(017) 283-01-98, vel. 8(029) 605-42-25
- г. Молодечно - т. 8(01767) 3-39-74, vel. 8(044) 773-81-71
- г. Мядель - т. 8(01797) 5-05-84, vel. 8(044) 555-10-46
- г. Вилейка - т. 8(01771) 2-28-84, vel. 8(029) 605-42-24
Эл. адрес: megalitas@mail.ru



Фота inmo-games.ru

Калі ваша мара – навучыцца іграць на раялі, паспрабуйце навучыцца. І вы будзеце на крок бліжэй да свайго ідэала сябе.

# Чаму так важна палюбіць сябе?

МАЛАДЗЕЧНА

**Самалюбства ці любоў да сябе? Абодва паняцці, па сутнасці, абазначаюць адно і тое ж: асаблівае стаўленне да сябе.**

Для таго каб зразумець, што такое любоў да сябе, трэба разабрацца з самой сутнасцю любові.

Калі вы каго-небудзь любіце, то першы час наогул не заўважаеце недахопаў чалавека, а калі пачынаеце заўважаць, усё роўна працягваеце яго любіць.

Іншымі словамі, на каханне не ўплывае “ідэальнасць” або яе адсутнасць у чалавека.

Калі вы любіце кагосьці, вы стараецеся зрабіць яго жыццё лепш, дапамагаеце яму, адорваеце падарункамі, паважаеце і вылучаеце сярод астатніх.

Прыкладна так павінна выглядаць і любоў да сябе.

Іншымі словамі, любоў да сябе – гэта поўнае прыняцце сябе з усімі недахопамі, упэўненасць у сваёй жыццёвай пазіцыі, наяўнасць уласнай думкі і гатоўнасць яе адстойваць, а таксама імкненне палепшыць сваё жыццё.

Як правіла, у жыцці гонар за свае дасягненні і самалюбства заўсёды ідуць рука аб руку, таму людзі, якія развіваюцца, ставяць мэты і дасягаюць іх, любяць сябе нашмат мацней.

Як жа навучыцца любіць сябе?

**Па-першае**, знешнасць. Выглядайце так, як вы хочаце выглядаць. Калі вы хочаце быць больш яркай, зграбнай, прыгожай, – вылучыце сабе час на гэта і па кроках рабіце ўсе неабходныя перамены.

Не патрабуйце ад сябе немагчымага. Проста зрабіце з сябе той максімум, які даступны з вашымі прыроднымі дадзенымі.

**Другое**. Характар. Калі ў вас ёсць рысы, якія не даюць вам спакойнага жыцця, выпішыце іх і перамагайце адну за другой.

Чалавек – каваль свайго шчасця, і ён жа каваль сваёй асобы. Развівайце станоўчыя якасці і перамагайце адмоўныя.

**Трэцяе.** Захапленні. Любіць сябе заўсёды прасцей тым, хто чагосьці дамогся.

Выберыце сферы, у якіх вы хочаце мець дасягненні і прыкладайце намаганні на шляху да поспеху. Так у вас будзе свая нагода для гонару і любові да сябе.

**І яшчэ**: прыйдзіце да згоды са сваім жыццём. Многія людзі гадамі цягнуць за сабой адносіны, якія іх прыгнятаюць. “Сяброўства”, у якім іх папросту выкарыстоўваюць, абавязкі, якія іх гнятуць.

Пазбаўцеся ад усяго, што робіць вас няшчасным. Палепшыце адносіны з блізкімі: адмоўцеся ад людзей, зносіны з якімі выцягваюць з вас сілы. Зрабіце ўсё, каб ваша жыццё рэальна падабалася вам.

**І самае важнае**: рабіце толькі тое, што хочаце рабіць. Не марнуйце свой час на справы, людзей і думкі, якія вам непрыемныя. Турбуйцеся пра сябе, развівайцеся і ідзіце наперад. Стаўце мэты і дасягайце іх. Паважайце свой час і праводзьце яго толькі так, як вам падабаецца і на тое, што прыносіць карысць.

Многія людзі шукаюць у падручніках псіхалогіі практыкаванні, якія распавядаюць, як палюбіць сябе. На самой справе, для гэтага вам дастаткова ўсяго толькі ўзяць паперу і ручку і распісаць план паляпшэння свайго жыцця: прыйсці да згоды са сваёй знешнасцю, характарам, абставінамі, знайсці новыя захапленні і зрабіць свой час больш эфектыўным. Размяркуеце усе намечаныя справы ў штодзённіку на бліжэйшыя два-тры месяцы і няўхільна выконвайце план.

Не думайце, што шматгадовую нелюбоў да сябе можна перакрэсліць за адзін вечар. Толькі паступовае самаўдасканаленне рэальна наблізіць вас да гармоніі з сабой.

**Анжэла КЛІНЦЭВІЧ, псіхолаг аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## За што вы любіце сябе?

**Таццяна Андронава, пенсіянерка, Маладзечна:**



– Кожны чалавек павінны любіць сябе. Я люблю сябе ў тыя моманты, калі раблю дабро людзям. Яшчэ з самага дзяцінства цікаўлюся і займаюся спортам. Да нядаўняга часу бегала марафоны. Цяпер захапілася скандынаўскай хадой. У спорце варта сябе любіць за поспехі і дасягненні.

**Бажэна Ганушкіна, настаўніца, Вілейка:**



– Складанае пытанне. Люблю сябе час ад часу. Але сваіх блізкіх больш. Сябе люблю тады, калі рэалізую нейкую ідэю, ёсць прычыны ганарыцца сабой.

**Яўген Вашкевіч, кіроўца, Вілейка:**



– Сябры кажуць, што любіць мяне за добрае пачуццё гумару. І, напэўна, варта пагадзіцца з імі.

**Крысціна Малевіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**



– Лічу, што любіць сябе павінна кожная жанчына. Хаця б за сваю прыгажосць. Бо ўсе жанчыны прыгожыя. Я люблю сябе за дабрыню, за тое, што не злапамятная. Мне не цяжка папрасіць прабачэння. Яшчэ люблю за тое, што я – добрая мама для сваёй дачушкі Сафіі.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

## Незвычайны суботнік зладзілі ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Спартыўны экалагічны рух, што паступова ахоплівае Беларусь, у выхадныя дайшоў да Вілейкі.**

У нядзелю, 26 сакавіка, усе, хто хацеў скарыстаць час з карысцю для сябе і роднага горада, паўдзельнічалі ў спартыўна-экалагічным свяце Green Woorkout.

Працавалі пад дэвізам: "Удасканальвай сябе – удасканальвай свет".

Задача ўдзельнікаў была адносна простая і звыклая – сабраць смецце на Вілляніным хутары і ў Ніжнім парку.

Аднак рабіць гэта трэба незвычайна.

Па-першае, некалькі камандаў у збіранні смецця спаборнічаюць на хуткасць.

А па-другое, робяць гэта, выконваючы розныя спартыўныя і акрабатычныя практыкаванні: скачкі, кулькі, прысяданні.

Вілейская моладзь адгукнулася на прапанову арганізатараў. Для ўдзелу сабралася пяць камандаў.

Свята пачалося з размінкі і інструктажу. А пасля каманды ўзяліся за сваю непасрэдную задачу – збор смецця на вызначаных тэрыторыях.

На заданне адводзілася 20 хвілін. За гэты час маладыя людзі прыбралі смецце, выконваючы спартыўныя практыкаванні.

Збіралі па-рознаму: хадзілі на руках, рабілі адцісканні, скакалі на адной назе, дэманстравалі акрабатычную "расцяжку".

Самыя смелыя дзяўчаты залазілі да хлопцаў на плечы, а самыя крэатыўныя танцавалі танец маленькіх лебедзяў і пры гэтым умудраліся падбіраць паперкі і пластыкавыя бутэлькі, што сустракаліся на шляху.

**Лідарам па колькасці сабранага смецця стала каманда вілейскай школы №1.**

У вучняў "Логаса" атрымалася сабраць больш смецця з узбярэжжа Віліі. Вызначылася і каманда сярэдняй школы №5. Крэатыўных спосабаў для збору смецця гэтыя ўдзельнікі прыдумалі больш за ўсіх.

**У выкананні самых складаных трукаў вызначылася каманда другой гімназіі. А вучням трэцяй школы пашанцавала найбольш: ім дасталася чыстая тэрыторыя.**

Смецце рассартавалі і расклалі ў новенькія кантэйнеры для паасобнага збору, набытыя за сродкі чарговага міжнароднага праекта. Усіх пераможцаў узнагародзілі.

Усяго ў свяце паўдзельнічала больш за 30 навучэнцаў вілейскіх школ. На добрую справу іх арганізавалі педагогі.

Пра гэта расказала адна з арганізатараў свята, куратар міжнародных праектаў, намеснік дырэктара вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота lotos.edu.minskregion.by

Вось такім незвычайным спосабам дзяўчаты з гімназіі "Логас" прыбіраюць тэрыторыю.



Фота Насты РОЎДЫ.

Летась удзельніцы конкурсу "Міс Маладзечна" прывялі ў парадак тэрыторыю каля Палаца культуры. Акрамя добрай справы, дзяўчаты атрымалі шмат станоўчых эмоцый.

# Раздражняе смецце? Далучыся да акцыі "Зробім!"

**З кім з нас не было такога: ідзеш па парку ці лесе, ці ўздоўж ракі – так прыгожа і хораша! Толькі вось смецце пад нагамі псуе ўсю гармонію. Здаецца, і прыбраць яго не складана, але ж аднаму такую тэрыторыю не ахапіць.**

Менавіта для тых, каму смецце рэжа вока ў горадзе і па-за яго межамі, і былі прыдуманыя акцыі ў межах руху "Зробім!".

"Зробім!" – частка сусветнага руху Let's Do It!, які аб'ядноўвае 113 краін і 16 мільёнаў валанцёраў. У яго межах ладзяцца акцыі па прыбіранні смецця – у Беларусі яны праводзяцца ад 2012 года. Сёлета бліжэйшы дзень агульнай прыборкі па ўсёй краіне – 22 красавіка. У гэты ж дзень разам з беларусамі прыбіраць сваю краіну будуць жыхары Літвы, Латвіі, Харватыі, Босніі і Герцагавіны.

### Як стаць удзельнікам?

Акцыі "Зробім!" прывабліваюць сваёй прастатой – далучыцца да іх можа кожны.

Можна зарэгістравацца ў якасці арганізатара. Для гэта трэба знайсці месца ў вашай мясцовасці, дзе шмат смецця, вызначыць час і месца збору валанцёраў і занесці гэту інфармацыю ў агульны спіс на сайце. І далей пры дапамозе сацыяльных сетак і ўласных кантактаў збіраць ахвотных далучыцца да вас.

**Калі вы не хочаце браць на сябе ролю арганізатара, то можна далучыцца ў якасці ўдзельніка.**

На сайце вы знойдзеце спіс запланаваных прыборак. Знайдзіце найбліжэйшую да вас і звяжыцеся з арганізатарам. Сачыце за інфармацыяй – чым бліжэй да акцыі, тым больш аб'яў пра актуальныя прыборкі будзе з'яўляцца. На сайце вы таксама зможаце знайсці інфармацыю аб тым, як падрыхтавацца да прыбірання і правільна арганізаваць яго.

У 2017 годзе "Зробім!" не абмяжоўваюцца акцыяй 22 красавіка. Чарговыя прыборкі будуць ладзіцца цягам года, а закрыецца сёлетні сезон 30 верасня.

Арганізатары зазначаюць, што хочуць адысці ад традыцый суботнікаў, якія часта бываюць абавязковымі і выклікаюць хутчэй негатыўныя асацыяцыі. Таму задача "Зробім!" – цікавыя і прывабныя акцыі, падчас якіх прыборка будзе ўспрымацца як свята.

### Наш рэгіён – сярод актыўных удзельнікаў

Усебеларускія акцыі "Зробім!" не абмінулі і наш рэгіён.

– Летась актывісты прыбіралі ў Маладзечанскім, Валожынскім і Смаргонскім раёнах, таксама ў Ашмянах, каля курортнага пасёлка Нарач і ў ландшафтным заказніку "Сарачанскія азёры", – прыгадвае каардынатар валанцёраў **Надзея Дубоўская**.

**– Усяго ў вас прайшло каля 10 прыборак. Ужо вядома, што сёлета актывісты зноў збяруцца ў Нарачы і на Сарачанскіх азёрах.**

Рэгістрацыя будзе пачынацца да 22 красавіка. Але арганізатары раяць не адцягваць яе на апошнія дні: чым раней вы зарэгіструецеся, тым больш будзе часу, каб сабраць ахвотных і разрэкламаваць акцыю. Важна таксама адразу вызначыцца з месцам прыбірання – каб іншыя ведалі, якое месца ўжо занятае.

**– Сітуацыя ва ўсіх рэгіёнах падобная, – кажа Надзея Дубоўская. – Вуліцы досыць чыстыя, але калі зазірнуць у зялёную зону, можна натрапіць на раскіданае смецце і нават цэлыя звалкі.**

На жаль, у пераважнай большасці гэта наступствы "культурнага" адпачынку людзей.

Праблемы дадаюць дачнікі. У лясах каля дачных кааператываў часта можна пабачыць несанкцыянаваныя звалкі, куды на працягу многіх гадоў скідваюць смецце замест таго, каб цывілізавана наладзіць яго вываз.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Пляшчанская трагедыя

*Працяг. Пачатак у №№1, 2, 10, 11, 12*

**Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Аляксандара (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) (1929 г.н.) Доўнараў.**




Дочкі загінулых Карповічаў, вязні Асвенцыма, Яўгенія Шостак (1936 г.н.) і Зінаіда Раковіч (1929).

### Расправа асабістаў

Лунёўцы адразу западозрылі швагра Жукоўскага, Ігната, які днём перадаў ім разведдадзеныя пра бяспеку, якая пагражае мінскім падпольшчыкам. Частка атрада зайшла ў хату да Жукоўскіх, а астатнія засталіся на вуліцы. Адразу з парога Белік пачаў задаваць Ігнату пытанні пра яго візіт у партызанскую зону. Галоўным чынам распытваў пра дачку. З кожным пытаннем і адказам, які не задавальняў Беліка, допыт набіраў усё больш і больш вострую форму. Не атрымаўшы адказу, якога хацеў, Белік загадаў Ігнату збірацца. Іван і Варвара паспрабавалі заступіцца за сваяка, што той ніякі не шпіён, а прыйшоў папярэдзіць пра праваленае мінскае падполле. У адказ Белік абазваў Жукоўскіх фашысцкімі прыхваснямі і загадаў сядзець і не высоўвацца, паабяцаўшы да іх яшчэ вярнуцца.

Ігнат на хаду накінуў кажушок на плечы і выйшаў з хаты. На прыцярушанай сняжком вуліцы ўжо шарэла і браўся марозік. Праз хвілін 20 пасля таго, як лунёўцы сышлі, дзесьці за вёскай прагучалі стрэлы. Вяскоўцы зразумелі, што асабісты пакаралі чарговага "нямецкага шпіёна".

Сям'я Жукоўскіх чакала сваёй чаргі, але ў гэты вечар да іх не прыйшлі. Назаўтра з самага рання Жукоўскія разам з Жогламі, якія даводзіліся ім блізкай раднёй, знайшлі за метраў 500 ад вёскі забітага і раздзетага амаль да гала Ігната. Але забіраць яго, каб пахаваць, пабаяліся – трэба быў дазвол асабіста.

### Фашысцкая помста

Не паспелі Жукоўскія толкам распавесці суседзям пра іх гора, як на вёску наляцелі Хаценчыцкія паліцэйскія і зондэркаманда з Ільі. Уся гэта фашысцкая хеўра адразу ж запоўніла ўсе падворкі, з якіх мінулым днём была адкрытая страляніна па паліцэйскіх і падчас якой адзін з іх быў забіты. Калі пачалася ў вёсцы страляніна і запалалі чатыры хаты з усімі пабудовамі, Аляксандра Мікалаеўна са сваім татам знаходзілася ў свіране, за метраў 200 ад свайго падворка. Стаялі і бездапаможна назіралі, як гінуць іх родныя і суседзі і як гараць іх хаты.

Расправіўшыся з сем'ямі Булаха, Горбача і Яўгена Дзіка, фашысцкая помста за забітага паліцэйскага пачала пераходзіць ужо на ўсю вёску. Але тут умяшаўся якраз падаспеўшы псаломшчык Ляшкевіч. Ён запэўніў немцаў у тым, што ў забойстве паліцэйскага вінаваты не сяляне, а партызаны. І тым больш, што гэтыя людзі самі сталі ахвярамі партызан-лунёўцаў і паказаў на Жукоўскіх, у якіх напярэдадні тыя расстралялі сваяка. Афіцэр зондэркаманды паверыў Ляшкевічу і адмяніў акцыю па знішчэнні ўсёй вёскі і яе жыхароў.

Пляшчане цэлы дзень не маглі адысці ад рапішніх жахаў. Бо кожны з іх прама ў вочы глядзеў сваёй смерці. І толькі бліжэй да вечара, крыху супакоіўшыся, на могілках у Загаранах родныя пахавалі Яўгена Дзіка (1904 г.н.) і яго шасцігадовага сына Ваню. Жонка Яўгена Лізавета (1905), параненая ў сківіцу, здолела выцягнуць з палаючай хаты сына і мужа. Але з сям'і выжыла толькі яна. Сям'ю Горбача нацысты расстралялі ў двары. Спачатку гаспадароў, Габруся (1904) і яго жонку Гэльку (1907), а потым і дачку Аляксандру (1927).

Аляксандра з меншымі братам і сястрой, калі пачулі страляніну і дым над суседскай хатай, ссякалі падмарожаную капусту за хлявом на агародзе. Аляксандра загадала малодшым схавацца ў барозны, чым і выратавала ім жыцці, а сама пабегла да хаты, насустрач сваёй смерці.

Горбачаў вяскоўцы пахавалі на месцы расстрэлу, у іхнім жа двары пад яблынькай, дзе тыя спачываюць і па сённяшні дзень, без магілкі і помніка, бо перапахаваць не было каму.

На наступны дзень усе жыхары Пляшчанаў сабраліся на папялішча сялібы Фёдара Булаха. Пахаванне гэтай сям'і ўскладнялася тым, што загінулыя згарэлі разам з хатамі. Суседзі добра бачылі, як фашысты разам з паліцэйскімі ўварваліся ў хату і сходу ўсіх пастралялі. Гаспадара, Фёдара Булаха, яго 24-гадовага сына Аляксандра, 22-гадовую нявестку Надзю і прыблукаўшую мінчучку Кацю, а потым, абліўшы пабудовы бензінам, падпалілі іх.

І вось вяскоўцы сабраліся ў спадзяванні, што ўдасца знайсці целы загінулых Булахаў і пахаваць іх. Але калі камяні падмурка парассыпаліся і паплавіліся ад тэмпературы, то што можна было казаць пра целы загінулых. Таму пахавалі тое, што можна было пахаваць, прама на падворку пры дарозе. Свой двор для іх, як і для Горбачаў, стаў вечным прыстанішчам.

### Трагізм вёскі набіраў абароты

Для Пляшчанаў гэта трагедыя не была апошняй. Паліцаі лазілі па вёсцы і выведвалі, хто мае дачыненне да партызан і дапамагае ім. А партызаны са свайго боку сярод жыхароў адшуквалі здраднікаў. І першыя, і другія за самую малую падазронасць каралі безабароннае насельніцтва ад старога да малога.

Вельмі моцны кантроль быў з боку партызан. Іх разведка працавала не горш за нямецкую, але ў шматлікіх выпадках з перабольшваннем. Бо лунінцы ўсё дакладна ведалі, хто дзе з кім загаварыў альбо куды хто схадзіў? Людзі стараліся маўчаць і не дакладваць нікому пра ўбачанае і пачутае. Але сярод насельніцтва знаходзіліся гэтак званыя "стукачы".

Апошняя трагедыя, якая адбылася з Булахамі, у чарговы раз пераканала пляшчанцаў ў мудрасці прыказкі: "Язык мой – вораг мой!" Вось "каб не заўважыў" Фёдар Булах тых паліцэйскіх, глядзіш і ўсё абышлося б ціха, спакойна і без ахвяр. Бо, як стала вядома пазней, тыя пяцёра паліцэйскіх ішлі ў вёску да **Евы Баран**, за пасам да паравога млына "Загараны". Яго гаспадар, Сымаль Цурэнман, пас той пакінуў у Евы на захоўванне. І іншай мэты паліцэйскія не мелі. Пакуль яны забіралі б у Бараноў той пас да млына, то партызаны ў Булахаў дапілі б гарэлку ды паснулі. І, хутчэй за ўсё, не адбылося б перастрэлкі і ўсе засталіся б жывымі. Але што здарылася, тое ўжо здарылася.

### Не заплаціш падаткі немцам – заб'юць немцы, а заплаціш – заб'юць партызаны

Наступіў 1943 год, які прынёс вяскоўцам новыя выпрабаванні. Партызаны забаранілі насельніцтву плаціць падаткі нямецкай уладзе. Такая забарона ўсім жыхарам вёскі несла смяротную пагрозу. Солтыс **Ключнік** не ведаў увогуле, што рабіць – ісці ў партызаны ці ў паліцыю.

Вяскоўцы, заціснутыя з усіх бакоў, пачалі баяцца лунёўцаў больш, чым немцаў. А лунёўцы – вяскоўцаў. Нямецкія шпіёны ім здаваліся не толькі ў навакольных вёсках, але і ў сваіх атрадах. Жыхары кляліся спаць адзетымі, працягвае свае расповеды Аляксандра Мікалаеўна. І толькі з адными думкамі, калі і хто прыйдзе па іх жыццё?

У лютым 1943-га асабіст Белік з трыма сваімі памагатымі ў чарговы раз наведаў Пляшчаны. Паводзіны яго ў той дзень былі нейкія незвычайныя. Хадзілі ад хаты да хаты, распытвалі, ці заўважаў хто чужынцаў у вёсцы і да каго тыя заходзілі? Папалуднаваўшы ў Івана Карповіча, працягнулі абход вёскі. Не звярталі нават увагі на дзяўчат. Магчыма, яго жарсці да жанчын астудзіла не вельмі прыемная хвароба, якой нядаўна перахварэў.

Ужо прыцемкамі зайшлі ў хату да Жукоўскіх. Доўга не марудзілі, бо абвінавачанне ім было ўжо падрыхтавана. У віну ім ставілася тое, што быццам Жукоўскія паспрыялі цэлай групоўцы нямецкіх агентаў пад выглядам савецкіх выведвальнікаў укараніцца ў рады іх брыгады. І што іх швагер Ігнат таксама ўваходзіў у склад завербаваных фашыстамі агентаў. Але ўсе яны своечасова былі выяўлены і расстраляныя. Так заявіў Белік. Таму, згодна з ваенным часам, чакае расстрэл і іх, хто з нямецкімі "агентамі" меў хоць якую сувязь. А гэта цэлы ланцужок здраднікаў, які цягнецца ажно да Мінска. І што моцным звяном таго ланцуга з'яўляецца і сям'я Жукоўскіх, іх швагер Ігнат з Мінска і ягоная дачка Вера, перакладчыца мінскай камендатуры.

Расстрэльвалі Жукоўскіх прама ў хаце. І калі меркаваць па характары выканання прыгавору, то там усё выглядала на бандыцкае жахлівае забойства азвярэлых нелюдзяў. Відовішча было не для слабанервовага чалавека. Усе сцены і нават столь былі ссечаныя кулямі і залітыя крывёй. На падлозе ў крывавых лужынах ляжалі знявечаныя шматлікімі кулямі целы Жукоўскіх: гаспадара Дзмітрыя (67 год), гаспадыні Варвары (58), дачкі Серафімы (27), сына Лёні (23), дачкі Марыі (20), унучкі Алімпы (10 год).

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 1 КРАСАВІКА

**460 гадоў** з часу прыняцця (1557) "Уставы на валокі", аднаго з галоўных дакументаў аграрнай рэформы 16 стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім – валочнай памеры.

**155 гадоў** з дня нараджэння **Адама Багдановіча** (1862 – 1940), беларускага этнографа, гісторыка культуры, мемуарыста, удзельніка рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацькі Максіма Багдановіча.

### 2 КРАСАВІКА

**165 гадоў** з часу стварэння (1852) Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў (створаны для збірання і зберажэння дакументаў часоў Вялікага Княства Літоўскага на тэрыторыях Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губерняў, дзейнічаў да 1915 г.).

### 4 КРАСАВІКА

**460 гадоў** з дня нараджэння **Льва Сапегі** (1557 – 1633), палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча ВКЛ, дыпламата і мысліцеля.

**1682 год.** Памёр **Міхаіл Казімір Пац**, дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся ў 1624.

### 6 КРАСАВІКА

**205 гадоў** з дня нараджэння (1812) Аляксандра Герцэна (Масква), расійскага грамадскага дзеяча, публіцыста, філосафа. Выступаў за нацыянальнае самавызначэнне беларусаў, падтрымоўваў вызваленчае паўстанне 1863-1864 гг.

**107 гадоў** з дня нараджэння (1910) **Барыса Кіта**, беларускага грамадскага дзеяча, настаўніка, матэматыка, вядомага фізіка, вучонага ў галіне астранаўтыкі, канструктара амерыканскай ракетнай тэхнікі. У 1941 годзе, з пачаткам нацысцкай акупацыі Беларусі, каб пазбегнуць арышту, некаторы час жыў у вёсцы Лебедзева, дзе пазней настаўнічаў у мясцовай народнай школе. У 1943 арганізаваў настаўніцкія семінарыі ў Маладзечне і Паставах, стаў іх дырэктарам, заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут у Маладзечне. Пасля закрыцця гэтых навучальных устаноў у 1944 быў арыштаваны гестапа і зняволены ў турме ў Вілейцы. У канцы вайны эміграваў у Германію, у 1945 – 1948 гадах вывучаў медыцыну ў Мюнхенскім універсітэце і адначасова выкладаў матэматыку ў мясцовых гімназіях. З 1949 жыў у ЗША. Ад 1972 года жыве ў Германіі. Ён акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, член многіх навуковых таварыстваў свету. Аўтар успамінаў.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Маладзечанка пра тое, як дабіралася ў народным строі на гуканне вясны ў Вязынку

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанка Наталля Цар (на фота) сёлета першы раз гукала вясну на радзіме Купалы, у Вязынцы. Як яна прызнаецца, перш чым даехаць на свята, трэба прайсці моцную псіхалагічную праверку.**



– Ехала на электрычцы з прыпынку "Фестывальны", – расказвае маладзечанка. – Не хацелася трапіць на народнае свята ў звычайных джынсах і куртцы, таму пазычыла ў знаёмых народную спадніцу, фартух, накідку. У такім выглядзе ты адразу кідаешся ў вочы прахожым, усе стараюцца хаця б адным вокам паглядзець на цябе. Ад гэтага адчуваеш сябе не такім, як усе. Становіцца цяжкавата. Зайшоўшы ў электрычку, спакайнееш, бо бачыш шмат аднадумцаў у такім жа вобразе.

На самім свяце жанчына не ўбачыла агрэхаў – спадабалася абсалютна ўсё: і настрой, які лунаў у паветры, і песні, і карагоды, і танцы.

– Менавіта на такіх мерапрыемствах акунаешся ў сапраўдную беларускую культуру, а пры дапамозе карагодаў адчуваеш еднасць з кожным удзельнікам, – дзеліцца ўражаннямі Наталля.

Маладзечанка адзначае, калі на свяце ты хочаш быць проста ў ролі гледача, то трэба проста прыехаць на ўрачыстасць. Калі ж хочаш стаць часткай свята, тады трэба далучыцца да колаўцаў (удзельнікі этнаграфічнага клуба "Кола" – аўт.). І свята заўжды будзе з табой.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Птушкі, стужкі і Ульянка-дачушка

МАЛАДЗЕЧНА

## У Вязынцы гукалі вясну

**– Бабуля, прывітанне! Я ў Вязынцы. Апранула світку, спадніčку і іду гукаць вясну, – весела шчабятала па мабільніку мая незнаёмая спадарожніца.**

Я таксама ішла гукаць вясну да дома-музея Янкі Купалы. Толькі не ў світцы са спадніčкай, а ў звыклых джынсах і паліто.

Радзіма Купалы сустрэла спевамі, свісцёлкамі, беларускай мовай, нацыянальнымі прысмакамі. Прапаноўвалі бабку, дранікі, медавуху. Хто змёрз, мог пакаштаваць боршч са смятанай адразу з вогнішча. А яшчэ гарбату – дайнаўскую, купальскую, вечаровую... У дадатак прапаноўвалі пасцілу з мясцовай садавіны.

У складзе напояў – скрыпень, меліса, ліст парэчак, мята, рамонак. Ад гэтых траў над Вязынкай плыў прыемны водар, а таксама традыцыйныя "Жаваронačкі, прыляцiце!".

Спявалі шмат сталыя і маладыя жанчыны, дзеці з розных народных калектываў Міншчыны. Складвалася ўражанне своеасаблівага песеннага спаборніцтва, дзе ніхто нікому не хацеў саступаць.

Падкідалі ўгору спечаных птушак, каб прывабіць вясну. Пераважную большасць гэта цешыла. Ды нейкі мужчына ўсё ж узрушаўся, што прадукты дарма пераводзяць. Але ж звычай ёсць звычай.

Затое супраць вялізнага вясновага карагода не выступаў ніхто. Дзеці і дарослыя, мужчыны і жанчыны завялі яго па ўсёй тэрыторыі ля музея. Перашкодай не стала нават не зусім падсохлая сакавіцкая гразь.

Паўсюдна спрабавалі свісцёлкі. Часам нават не зразумець было: ці гэта ўдзельнікі свята свішчуць, ці нарэшце птушкі прачнуліся.

Ладзілі майстар-клас па вырабе папяровых птушак. Бліжэй да заканчэння свята дрэвы вакол музея сталі стракатымі ад яркіх стужак і самаробных птушак.

Этнаграфічны клуб "Кола" пад акампанемент скрыпкі, гармоніка і цымбалаў вучыў усіх ахвотных танцаваць беларускія народныя танцы. І, нягледзячы на халаднаватае веснавое надвор'е, людзі распраналіся, угрэўшыся ад стараннай вучобы.

Былі і народныя гульні. Хлопцы павінны былі з "ланцужка" дзяўчат выхапіць тую, што найбольш спадабалася, і перацягнуць да сябе. Часам маладыя людзі губляліся ў выбары і хапалі адразу трох.

– Як ад самай рэчкі воўк панёс авечку! – гэта дзятва забаўляецца сваімі гульнямі "Цар", "Воўк і авечкі", "Ручаёк".

Прадстаўнікі таварыства "Ахова птушак Бацькаўшчыны" дазвалялі ўсім зацікаўленым паназіраць за птушкамі праз спецыяльны бінокль. І былі гатовыя расказаць пра кожнага прадстаўніка крылатай флоры.

Рамеснікі прапаноўвалі бранзалеты ды завушніцы, ганчарныя і тканыя вырабы.

А якое ж гуканне без традыцыйных арэляў? Мужчыны-арганізатары залезлі на дрэва, перакінулі праз сук тоўстую вяроўку – і вось ужо першая дзятва гушкаецца над Вязынкай.

Наваколле стракацела ад нацыянальных строяў, вышыванак і яркіх хустак, звінела ад песень і звонкай дзіцячай гаманы.

І ўсё ж я пачула, як адна з удзельніц свята знаёміць гасцей са сваёй "дачкой" – самаробнай мяккай лялькай Ульянкай.

– Хто яе прытуліць, абавязкова народзіць дачушку! – абяцала жанчына.

Я не стрымалася і прытуліла Ульянку, хоць дзвюх дачушак ужо маю.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



"Жаваронačкі, прыляцiце", – разносілася над Вязынкай.



Танцавалі пад акампанемент народных інструментаў.



Што за гуканне без арэляў?



Стамілася!



Танцы-танцы.

# Пераможцы нашых конкурсаў атрымалі падарункі


Узнагароджанне адбылося на курсах беларускай мовы "Мова Нанова".


Мама Дзяніса Яскевіча атрымала падарунак за сына, які ў гэты час быў на рэспубліканскай алімпіядзе па фізіцы.

МАЛАДЗЕЧНА

**Узнагароджанне адбылося на курсах беларускай мовы "Мова Нанова" 28 сакавіка.**

Пераможца конкурсу эсэ 11-класнік Даўгінаўскай школы **Дзяніс Яскевіч** сам прыехаць не змог: якраз удзельнічаў у рэспубліканскай алімпіядзе па фізіцы.

Яго мама расказала пра Дзяніса, яго эсэ аб стварэнні электрамабіляў і поспехах у вучобе. Хлопчык сам пра сябе гаворыць, што ён фізік, а ў душы лірык. Жадаем поспеху Дзянісу ў вучобе, паступленні і дасягненні сваіх мэт.

**Вячаслаў Курбака** атрымаў падарунак як пераможца конкурсу гісторый пра адпачынак. У конкурсе ўдзельнічалі гісторыі падарожжа па Еўропе, Егіпце і Беларусі. Вячаслаў расказаў пра сваю вандроўку па нашым рэгіёне. Распавёў пра мясціны, якія трапляюцца на шляху, помнікі і постаці, звязаныя з імі.

Некаторыя слухачы курсаў нават папрасілі скантактавацца з Вячаславам, каб дамовіцца аб маршруце. Магчыма, гэта ініцыятыва перарасце ў групавую экскурсію "Мова Нанова" пад арганізацыяй нашага сталага чытача і пераможцы конкурсу "Вячаслава".

**Заняткі курсаў беларускай мовы "Мова Нанова" адбываюцца штоаўторак у бібліятэцы "Верасок" у Маладзечне. Пачатак у 18 гадзін.**

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**


Вячаслаў Курбака распавёў пра сваё падарожжа ў нашым рэгіёне.

# Удзельнік конкурсу пра адпачынак: наш край багаты на дзівосныя мясціны

**Кожны куточак нашай планеты па-свойму своеасаблівы і цікавы.**

Кагосьці цягне веліч заснежаных Альпаў, Карпат, Андаў, а хтосьці аддае перавагу вывучэнню берагавых пляжаў у цёплых краях. Нехта з задавальненнем блукае па вузкіх вулачках старадаўніх гарадоў і з цікавасцю слухае расповеды пра гісторыю і мінуўшчыну таго краю.

Але для таго, каб у поўнай меры разумець чужую гісторыю і культуру, перш за ўсё, трэба з шанаваннем і павагай ставіцца да сваёй. Ведаць як мага болей пра тое месца і яго ваколіцы, дзе табе пашчасціла нарадзіцца.

Дзякую Усявышняму, што нарадзіўся ў багатым на гісторыю Віленскім краі. Шмат у ім цікавых месцаў, легендаў і паданняў. І таму, як маю час, стараюся падарожнічаць, каб пабачыць шмат з гістарычных цікавостак нашай малой радзімы. Крыўдна часам становіцца ад таго, што мясцовыя жыхары кажуць, быццам у нашым краі няма ніякіх цікавых гістарычных месцаў. Гэта не так!


Вячаслаў Курбака падчас падарожжа ў Радашкавічы.

Звычайна, за жыццёвымі клопатамі, не маю часу на доўгія падарожжы і вандроўкі, але калі з'яўляецца вольная часіна, то падарожжа па рэгіёне – лепшы адпачынак.

Таму прапаную жыхарам свой маршрут для аднадзённага цікавага падарожжа па нашым краі, што склаўся ў мяне ў апошнія гады: Маладзечна-Лебедзева-Беніца-Крэва-Баруны-Багданава-Гальшаны-(зваротны шлях)-Дзясятнікі-Вішнева-Валожын-Літва-Палачаны-Маладзечна.

**Маршрут гэты лепш адольваць на ўласным транспарце, невялічкай кампаніяй (4-5 чалавек). Будзе гэта больш аператыўней і нашмат зручней, чым грамадскім транспартам.**

І зрэшты, будзе ён уключаць не толькі агляд славутасцяў, як, напрыклад, царква і капліца ў Лебедзеве, выдатны касцёл у Беніцы, славуты Крэўскі замак, кляштар у Барунах, руіны сядзібы Рушчыцаў у Багданаве, Гальшанскі замак і манастыр, вайсковыя могілкі Першай сусветнай вайны ў Дзясятніках, касцёл і царква ў Вішневе, адметная цэнтральная забудова Валожына і г.д. Падчас гэтага маршруту можна будзе зрабіць прыпынак для пікніка і проста адпачыць душой на ўлонні прыроды: на маляўнічым возеры ў Сантоках (ля Багданава), ля былой панскай электрастанцыі на беразе Гальшанкі (у Дзясятніках), на пясчаным пляжы ў Сакаўшчыне, на беразе Заходняй Беразіны (ля вёскі Літва).

Ну і, вядома, вельмі б параіў прайсціся даваеннымі вулачкамі роднага Маладзечна, якое адметнае цікавымі будынкамі часоў другой Рэчы Паспалітай.

Рэкамендую патраціць дзянёк на наведванне такога знакавага паселішча ў нашым рэгіёне, як Радашкавічы. У мястэчку цікавасць выяўляе адметная забудова цэнтра, касцёл 16 стагоддзя і царква на самым высокім узвышшы ў пасёлку, старыя могілкі, дзе пахаваныя паўстанцы 1863 года, канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, на беразе якога мясцовыя жыхары часта ладзяць пікнікі і шпацыры і г.д.

Яшчэ проста неабходна наведаць цікавыя экскурсіі, што ладзяць на заводзе "Белмастацкерамікі" і даведацца пра спрадвечнае беларускае рамяство – ганчарства, таксама паспрабаваўшы і сябе ў ролі народнага майстра.

Наш край багаты на дзівосныя мясціны, таму гісторыю яго трэба вывучаць і шанаваць.

**Вячаслаў КУРБАКА.**
**Фота аўтара.**

# У слове каманда няма літары я

## Таму 11-гадовы хакеіст трэніроўкі не прапускае

МАЛАДЗЕЧНА

**Васю Апановічу ў дзень, калі мы з ім пазнаёміліся, споўнілася 11 гадоў.**



Фота Наталлі ТУР.

Вася Апановіч гуляе ў хакей і выдатна вучыцца. "Гэта таму, што я дысцыплінаваны", – тлумачыць хлопчык.

Пяць з іх – ён хакеіст каманды "Дынама-Маладзечна-2005". Раней каманда называлася паіншаму, але цяпер у нас новая форма, а значыць, гутарыць мы будзем з сапраўдным дынамаўцам.

Каманда гуляе ў рэгулярным чэмпіянаце краіны. Вася – правы нападаючы і ў нядаўнім матчы супраць каманды з Оршы забіў тры шайбы, у выніку каманда выйграла.

– Напярэдзе гульні з Наваполацкам і Лідай. І чамусьці ў Лідзе нашай камандзе не шанцуе. Заўсёды ў гасцях прайграём.

Трэнер каманды **Андрэй Пічуха** вучыць сваіх падначаленых перад гульнёй настройвацца і верыць у перамогу.

– Андрэй Юр'евіч нам кажа, што пакуль не прагучала фінальная сірэна, гульня яшчэ не скончана і расслабляцца да апошніх секунд нельга. Так было ў матчы з Оршай. За 20 секунд да заканчэння гульні лік быў 4:4. Аднак мы змаглі вырваць перамогу.

Цяпер каманда Васі займае першае месца ў чэмпіянаце.

– Перад гульнёй трэнер забараняе нам гуляць на вуліцы, стамляцца, бегаць. У распранальні нельга смяяцца.

Трэніруюцца 10-гадовыя хакеісты кожны дзень.

– Выхадны бывае толькі на наступны дзень пасля гульні. Я трэніроўкі не прапускаю яшчэ і таму, што са мной у камандзе гуляюць мае лепшыя сябры: **Антон Грышчук, Глеб Русакевіч, Косця Бобрык, Арсень Арол.**

У нядзелю, расказвае Вася, здараецца, што першая трэніроўка пачынаецца ў шэсць раніцы.

– Мама, бывае, кажа, каб я лепш паспаў, не ішоў, але я ёй на гэта адказваю: "Мама, у слове каманда няма літары я, калі я не пайду на трэніроўку, падвяду сваю каманду".

**У хакей Вася прыйшоў пяць гадоў таму, калі быў яшчэ першакласнікам.**

– Мы з мамай і татам пайшлі катацца ў наш Лядовы палац на каньках, там убачылі аб'яву, што набіраюцца дзеці для заняткаў хакеем. Бацькі спыталіся ў мяне: "Хочаш?" Я адказаў: "Хачу". Так і стаў займацца. Канешне, у дзяцінстве марыў быць кімсьці, нават маляваў пэўны час, а цяпер разумею, што мару быць знакамітым хакеістам. І пра сабаку мару, – шчыра прызнаецца хлопчык.

Васю на дзень нараджэння бацькі абяцалі падарыць хатняга гадаванца.

– Я, вядома, мару пра сабаку, але тады яшчэ давядзецца думаць пра вялікі дом, бо ў кватэры сабаку будзе цесна. Тата не любіць катоў, а мама пацукоў. Я думаў пра чарапаху, але яна жыве 300 гадоў. Хто будзе яе даглядаць, калі мы ўсе памром? – на поўным сур'ёзе пытаецца Вася. Відаць, у мяне будзе папугай.

Акрамя хакея, Вася захапляецца тым, што збірае вялікія канструктары.

– А камп'ютары не люблю. Ну што ён? Машына. З сябрамі ж весялей пагуляць. А за камп'ютарам сяджу тады, калі пераглядаю свае матчы, трэба ж разабрацца, дзе я, магчыма, зрабіў памылку. І татавы канцэрты таксама ў інтэрнэце гляджу, а вось мае матчы тата амаль не прапускае.

Бацьку Васі завуць Дзмітры, ён музыкант у аркестры, працуе ў Мінску.

– Але хакей тата любіць не менш, чым музыку. Мы аднойчы гулялі са слабай камандай і прайгралі ім. Як тата злаваўся, як крычаў! Я тады падумаў, што пасля гэтага сыду з каманды, кіну хакей. Але ўсё ж вырашыў застацца.

Вася пагаджаецца з выразам, што ў хакей павінны і могуць гуляць толькі сапраўдныя мужчыны.

– Так і ёсць. Хакей прывучае змагацца, быць смелым, не звяртаць увагі на траўмы. На жаль, у хакеі, нават у дзіцячым, траўмы здараюцца часта. Майго сябра аднойчы "хуткая" забрала з трэніроўкі. Мы гулялі з хлопцамі 2002 года нараджэння, і сапернікі павялі сябе неспартыўна: выбілі майго сябра за борцік, а ён атрымаў вывіх нагі. Я вельмі перажываў за яго, за тое, што на некалькі тыдняў мяне пакінулі без партнёра па камандзе.

А яшчэ, расказвае Вася, хакей вучыць адказваць за свае словы, прызнаваць памылкі.

– Нас трэнер аднойчы спытаўся, што рабіць, калі вы пабеглі ў атаку, а ў абарону сіл вярнуцца няма. Мы адказалі, што тады сябры па камандзе павінны падстрахаваць. А трэнер кажа: "Добра, вас сусед па камандзе падстрахаваў, а ў яго самога таксама няма сіл больш працягваць гуляць за сябе". І што тады рабіць? Задача.

Задачы Вася ўмее рашаць не толькі хакейныя. Вучыцца Васіль Апановіч на 8-10. Любімыя прадметы ў яго – матэматыка і беларуская мова.

– А яшчэ я вельмі рады, што цяпер вучуся ў першую змену. Таму што, калі вучышся ў другую, урокі даводзілася прапускаць. А цяпер у маім раскладзе ўсё дакладна: раніцай школа, потым хутчэй рабіць урокі, каб паспець на трэніроўку, потым трэніроўка, час на гульню і спаць. У таго, хто марыць быць знакамітым хакеістам, дысцыпліна і рэжым павінны быць на першым месцы.

**Наталля ТУР.**

# "Вікторыя" вучняў гімназіі №7

МАЛАДЗЕЧНА

Стойкасць, сілу, майстэрства і волю развівае ў сваіх вучняў **Святлана Тышкевіч**, настаўніца фізічнай культуры і здароўя гімназіі №7 Маладзечна.

На працягу васьмі гадоў яна рыхтуе дзяцей да алімпіяд. Нядаўна на 13 раённай алімпіядзе па "Фізічнай культуры і здароўі" чацвёра вучняў гімназіі (**Антон Каўбаска, Вікторыя Ляшчынская, Надзея Маліноўская і Уладзіслаў Віннікаў**) паказалі выдатныя вынікі, а двое з іх перамаглі. Алімпіяда прайшла ў два этапы: першы – тэорыя, баскетбол, плаванне, другі – гімнастыка і УФП (узровень фізічнай падрыхтоўкі).

Пераможцам алімпіяды стаў адзінаццацікласнік Антон Каўбаска, які быў лепшым у чатырох з пяці відаў. Юнак рыхтаваўся да турніру два гады, а летась заняў другое месца ў абсалютным першынстве на абласной алімпіядзе.

Але тое, чым сапраўды захапіўся Антон, у чым ён знайшоў сябе, – гэта BMX riding (від роварнага спорту, у якім спартсмены выконваюць складаныя трукі на роварах). Таксама хлопец гуляе ў футбол, займаецца ў байцоўскім клубе "Гладыятар", ходзіць у спартзалу.

– Алімпіяда падалася мне лёгкай. Шкада, што нельга было дадаць нешта сваё, раскрыць сябе з нейкіх іншых бакоў. Трэба было выконваць пастаўленыя задачы, – распавёў Антон.

Вучаніца 10 класа Вікторыя Ляшчынская заняла першае месца сярод дзяўчат. Віцы заўсёды падабалася танцаваць, яна займалася народнымі танцамі ў ансамблі "Белыя крылы", пазней у студыі эстраднага танца Vis-A-Vis пры Палацы культуры. Цяпер з-за вучобы няшмат часу, але яна наведвае трэнажорную залу, бегае па вечарах.

– У першы дзень былі самыя складаныя этапы для мяне. Хваляванне было перад баскетболам, баялася, што страчу час і не траплю ў кольца з першага разу. У тэорыі была важная кожная секунда. За што я менш за ўсё хвалявалася, дык гэта за гімнастыку, – падзялілася ўражаннямі юная спартсменка. – Не хацелася падводзіць сваю гімназію, Святлану Анатольеўну, дзякуючы якой за тры гады падрыхтоўкі змагла палепшыць свае вынікі. Спорт для мяне – гэта не проста фізічныя практыкаванні, гэта тое, што дапамагае сабрацца з думкамі, палепшыць сябе не толькі фізічна.

Святлана Тышкевіч радуецца за поспехі дзяцей больш, чым за ўласныя:

– Вядома, я верыла ў кожнага з вучняў. Хтосьці выканаў усё ідэальна, камусьці крыху не хапіла, але гэта толькі матывуе рухацца наперад. Адрозненне алімпіяды па фізкультуры ў тым, што ты бачыш выкананне кожнага з этапаў на свае вочы. Я рада за сваіх дзяцей, яны выдатна сябе паказалі.

**Надзея БОБРЫК,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Двухствольнае паляўнічае ружжо.
2. Спецыяльная скрыня для пераноскі пэндзляў, палітры, фарбаў і г.д.
5. Тумба на палубе судна або на прыстані для замацавання каната, троса.
7. Тое, што і мышца.
8. Які накірунак свету размешчаны па левую руку ад фігуры Леніна на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне?
10. Буйное прыватнае зямельнае ўладанне.
11. Якой гульні прысвечаная кніга, якую рыхтуе да друку маладзечанец Віталь Качаткоў?
12. Мастак, які піша марскія пейзажы. Напрыклад, Іван Айвазоўскі і Вільям Цёрнер.
15. Імя жывёльнага сімвала Алімпійскіх гульняў 1980 года.
18. Сумесь белага вінаграднага віна з ромам, лікёрам і каньяком, іншы раз са свежымі фруктамі.
19. Прозвішча загадчыка станцыі “медыцынскай дапамогі” ў Маладзечне.
20. Сталіца Туніса.
21. Што таннее падчас інфляцыі?
24. Аўтар цытаты: “Што ўрэшце галоўнае ў фарміраванні чалавека? Праца”. Беларускі пісьменнік.
28. Абразлівы ўчынак.
30. Гэта слова паходзіць ад лацінскага дзеяслова “выкрыкваць”.
31. “На зеркало неча пенять, коли рожа крива”. Для якога твора Гоголь абраў гэту прыказку эпіграфам?
32. Густая мучная або крупяная страва з салам
34. Птушка, якая ў сакавіку атрымала статус сімвала Вілейшчыны.
35. Сукупнасці правіл і прыёмаў, якія аблягчаюць запамінанне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. У якім горадзе захоўваецца карціна Мікеланджэла “Стварэнне Адама”?
4. Непрыгодная рэч.
6. Помесь жарабка і асліцы.
7. Галоўны ўдзельнік бою быкоў.
9. Рухомая складка скуры, якая прыкрывае вока.
13. Мясныя катлеты з начынкай.
14. Што не існуе, але мае назву?
16. Паводле гэтага эмпірычнага правіла 20% намаганняў даюць 80% выніку, а астатнія 80% – толькі 20% выніку.
17. Куча камянёў.
19. Асобная жывёліна, якая паходзіць ад скрыжавання двух відаў, парод.
20. На вокладку гэтага часопіса патрапіў кампазітар Дзмітры Шастаковіч у той год, калі ў блакадным Ленінградзе выканалі яго сімфонію. А яго прадзед нарадзіўся на Мядзельшчыне.
22. Штучна створаная страта адчувальнасці якога-небудзь органа.
23. Публічныя спрэчкі на навуковую або важную грамадскую тэму.
25. Вялікая частка сушы, якая абмываецца морамі і акіянамі.
26. “Каб не ... ў роце, хадзіў бы ў злоце”.
27. Закупорка для бутэлек.
29. Які прадмет чакаў у падарунак Вялікі князь Вітаўт у 1430 годзе, але так і не дачакаўся.
33. Есці што-небудзь смачнае.
34. І хімічны элемент, і лес.
36. Яе нараджае попыт.
37. Род сферычнага шкла са сферычнымі паверхнямі.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №12.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Жывіца. 3. Хаванскі. 4. Развод. 6. Алігаполія. 7. Квадрат. 13. Плётка. 14. Быкаў. 16. Ламачча. 17. Канакрад. 18. Будслаў. 19. Юпітэр. 22. Лусака. 24. Падсвінак. 26. Летась. 29. Ной. 30. Мір. 31. Разынкі. 32. Пандора.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Баланс. 5. Замшэлы. 8. Апошняга. 9. Ікол. 10. Дроў. 11. Прышлы. 12. Запалавелы. 15. Кабінет. 17. Капуха. 20. Кавун. 21. Камандор. 23. Каран. 25. Гервяты. 27. Аральскае. 28. Антарктыда. 30. Мізантроп. 33. Зефір.

## ГАРАСКОП 31 САКАВІКА - 6 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Вельмі станоўчы перыяд, але не таму, што вам будзе спадарожнічаць удача ці пачнуць развівацца справы, якія раней прастойвалі. Вы падыміце сваю самаацэнку, зразумееце прапісныя ісціны, якія так не проста нам даюцца.



**ЦЯЛЕЦ.** Многа радасных падзей наведае вас у доме, перш за ўсё эмацыйных. Часам радасць можа быць нічым не абумоўленая, але хіба патрэбныя такому пачуццю нейкія доказы і прадпасылкі.



**БЛІЗНЯТЫ.** На тое, што адбываецца, варта глядзець па-філасофску. Усё гэта не больш чым несусветная мітусня, але, тым не менш, вы можаце ўзяць нешта карыснае для сябе, проста назіраючы за развіццём падзей.



**РАК.** У вас ёсць магчымасць пачаць дзейнасць па ўвасабленні ў жыццё сваіх матэрыяльных амбіцый. Вы стаіце на парозе новых здзяйсненняў, і ў вас ёсць сілы для таго, каб дасягнуць поспеху.



**ЛЕЎ.** Вы можаце прыдумаць ці нават стварыць штосьці цудоўнае. І тут неабавязкова быць мастаком ці вынаходцам. Прыўнесці навізну можна і ў звычайнае жыццё. А для таго, каб у жыцці з’явілася месца для новага і светлага, трэба пазбавіцца ад старога, якое перашкаджае глядзець наперад і бачыць станоўчыя перспектывы.



**ДЗЕВА.** Вам неабходна адмовіцца ад празмернай канцэнтрацыі на ўласных каштоўнасцях, справядлівасці, жаданні кіраваць усім і ўсімі. Перад вамі адкрываюцца новыя гарызонты, нават калі здаецца, што для гэтага няма ніводнага шанца.



**ШАЛІ.** Часцей праяўляйце разуменне, мяккасць, чуласць. Развівайце ў сабе інтуіцыю, яна дазволіць вам разабрацца ў шмат якіх заблытаных справах. І смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды вас не павінны спыняць.



**СКАРПІЁН.** Вам добра было б адправіцца ў якое-небудзь, хоць кароценькае, падарожжа. Вам проста неабходныя новыя эмоцыі і прыліў сіл. Бо стомленасць можа выліцца ў незадаволенасць сабой і іншымі.



**СТРАЛЕЦ.** У вас дастаткова сіл, і творчых таксама, каб задуманае ператварыць у жыццё, толькі прымяніце свае жаданні і фантазіі. І знайдзіце ў сабе рашучасць, каб зрабіць крок у правільным кірунку.



**КАЗЯРОГ.** Мы не заўсёды цэнім тое, што ёсць, імкнёмся валодаць большым ці хаця б проста чымсьці новым. Удзяліце час не толькі ўцехам, але і роздумам аб сэнсе жыцця і адносінах, аб іх месцы і ролі ў жыцці.



**ВАДАЛЕЙ.** Час спрыяльны для тых, хто прывык дабівацца выніку, разлічваць толькі на сябе і сваю рашучасць. Смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды не змогуць вас спыніць. Перад вамі адкрываюцца новыя магчымасці.



**РЫБЫ.** Вы спрабуеце ўсе пытанні вырашыць пры дапамозе банальнага лагічнага мыслення. Але, здараецца, лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Навучыцеся адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне. Каб не сапсаваць адносіны з навакольнымі, каб не пацярпеў ваш фінансавы стан, будзьце асцярожныя ў словах, не такія імпульсіўныя ва ўчынках.

## 1 КРАСАВІКА

– Усе гараскопы – лухта!

– Адкуль ты ведаеш увогуле?

– Я Авен, мы рэдка памыляемся.

***

– Хто ты па гараскопе? – Я жах, які ляціць на крылах ночы! Я страх, які пранізвае ноч! Я правая рука лёсу! Я... – Вадалей? – Так.

***

Віні гаворыць Пятачку. – Чуеш, Віні, я знаю, што з табой будзе, калі ты вырасцеш! – А ты што, мой гараскоп прачытаў? — Не-а, кнігу “Пра смачную і здаровую ежу”!

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

**1 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +9 | | +5 / +5 | | +6 / +16 | | +10 / +12 | |
| | 741 | ↗ 4 | 747 | ↗ 7 | 743 | ↑ 6 | 742 | ↗ 4 |
| Вільня | +2 / +10 | | +4 / +11 | | +9 / +18 | | +11 / +10 | |
| | 749 | → 7 | 754 | ↑ 6 | 749 | ↗ 7 | 751 | ↘ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.43
Захад 19.49
Даўжыня дня 13.03

Усход 9.27
Захад 0.14
Квадра 3




## 1 КРАСАВІКА

– На працягу сённяшняга дня месцамі чакаюцца моцныя ападкі, – прадказвае дасведчаны метэаролаг.

Малады асістэнт схіляецца над здымкамі, атрыманымі са спадарожнікаў:

– На падставе якіх дадзеных вы зрабілі такое заключэнне?!

– Я забыўся сёння парасон дома, памыў машыну і ўвечары запрошаны на вечарынку ў садзе майго сябра!



**Як жывуць маладзечанцы ў самым прыгожым доме ў горадзе. Фотарэпартаж глядзіце праз тыдзень.**







## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 1 | 7 | | | |
| 7 | | | | | 2 | | 4 | |
| | 9 | | 4 | 5 | | 1 | | |
| | | 1 | 2 | 6 | | | | |
| | 4 | | 7 | | 8 | | 5 | |
| | | | | 4 | 5 | 7 | | |
| | | 3 | | 7 | 9 | | 1 | |
| | 2 | | 6 | | | | | 8 |
| | | | 5 | 2 | | | | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай ліčбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 3 | 4 | 9 | 1 | 7 | 8 | 2 | 5 |
| 7 | 1 | 5 | 3 | 8 | 2 | 6 | 4 | 9 |
| 8 | 9 | 2 | 4 | 5 | 6 | 1 | 3 | 7 |
| 5 | 7 | 1 | 2 | 6 | 3 | 9 | 8 | 4 |
| 2 | 4 | 6 | 7 | 9 | 8 | 3 | 5 | 1 |
| 3 | 8 | 6 | 1 | 4 | 5 | 7 | 9 | 2 |
| 4 | 5 | 3 | 8 | 7 | 9 | 2 | 1 | 6 |
| 1 | 2 | 7 | 6 | 3 | 4 | 5 | 9 | 8 |
| 9 | 6 | 8 | 5 | 2 | 1 | 4 | 7 | 3 |





## ПАДПІСКА

*Тэлефануеш сяброўкам плёткі сабраць? Ці не лепш у "Рэгіянальнай газеце" прачытаць?*



**Працягваецца падпіска на "РГ":**
**Падпісны індэкс: 63212**









Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№13 (1144) 31.03.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 301. Падпісана ў друк у 9.00 30.03.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны: **(80176) 53-78-04**, **53-78-05**, **53-78-06**, (ад 3.04.2017) **(8029) 573-28-47**, **676-84-20**
E-mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.